«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (210), люты 2024 года




# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 2 (210) (люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест



ГРАМАДА

# Прыкладнае літаратурнае меню на тыдзень



Аксана СПРЫНЧАН

**Панядзелак**
*Сняданак:* «Пяць лыжак заціркі» Змітрака Бядулі.
*Полудзень:* «Смачны заяц» Максіма Гарэцкага.
*Падвячорак:* «Апельсіны» Пімена Панчанкі.
*Вячэра:* «Бульба» Леаніда Дайнекі.
*Начны перакус:* «Лёгкі хлеб» Хрысціны Лялько.

**Аўторак**
*Сняданак:* «Грэцкі арэх» Уладзіслава Рубанава, «Як мяне частавалі мёдам» Васіля *Хомчанкі, «На гарбату» Леры Сом.*
*Полудзень:* «Мяса і скрыпка» Леаніда Дранько-Майсюка, «Кавалак хлеба» Міхася Лынькова.
*Падвячорак:* «Маліны» Алены Васілевіч.
*Вячэра:* «Свята пірага» Яўгеніі Янішчыц.
*Начны перакус:* «Не пі густога чаю» Кузьмы Чорнага.

**Серада**
*Сняданак:* «Велікодныя яйкі» Змітрака Бядулі, «Соль» Барыса Сачанкі, «Гарбата з незабудак» Касі Сянкевіч.
*Полудзень:* «Сябра з каўбасой» Вацлава Ластоўскага.
*Падвячорак:* «Антонаўкі бубняць» Уладзіміра Караткевіча.
*Вячэра:* «Сала» Віктара Шніпа.
*Начны перакус:* «Чарнічка» Максіма Гарэцкага.

**Чацвер**
*Сняданак:* «Рыба і іншыя» Уладзіміра Арлова.
*Полудзень:* «Юшка з заечай капусты» Алеся Наварыча, «Салодкія карасі» Паўла Місько, «Кавалачак хлеба» Івана Грамовіча.
*Падвячорак:* «Траска» Алеся Аркуша.
*Вячэра:* «Рыба» Віктара Шніпа.
*Начны перакус:* «Кропля малака» Міхася Лынькова.

**Пятніца**
*Сняданак:* «Салата для гурмана. Думкі пад маянэзам ветру» Зміцера Вішнёва, «Балада пра соль» Леаніда Дайнекі, «Гарбата з мёдам і мялісай» Касі Дземянчук.
*Полудзень:* «Замак пабудаваны з крапівы» Змітра Вішнёва, «Хлеб» Барыса Сачанкі.
*Падвячорак:* «Яблычны пах цішыні» Фелікса Баторына.
*Вячэра:* «Вячэра з відам на "Дынама"» Усевалада Сцебуракі, «Заяц варыць піва» Уладзіміра Караткевіча.
*Начны перакус:* «Пасцель, залітая віном» Валянціны Аксак.

**Субота**
*Сняданак:* «Лаўлюся на каву і цыгарэты» Леры Сом.
*Полудзень:* «Свае блінцы» Цішкі Гартнага.
*Падвячорак:* «Грушы» Усевалада Гарачкі.
*Вячэра:* «Віно сэнсу» Тацяны Барысюк, «Лімончыкам закусвай» Анатоля Зэкава.
*Начны перакус:* «Вінны яблык» Евы Вежнавец, «Хлеб свой пускай па вадзе» Сяргея Календы.

**Нядзеля**
*Сняданак:* «Аперацыя "Яечня"» Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай, «Кава на дарожку» Паўла Касцюкевіча.
*Полудзень:* «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, «Хлебныя словы» Пімена Панчанкі.
*Падвячорак:* «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» Уладзіміра Някляева.
*Вячэра:* «Шляхам бульбы» Рыгора Барадуліна, «Сухое віно» Анатоля Зэкава, «Я п'ю адзін чырвонае віно» Анатоля Сыса.
*Начны перакус:* «Рэквіем па нясвіжскім сале» Уладзіміра Арлова, «Жбан і вада» Віктара Слінкі.

# Рэвалюцыя зялёнага змія



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

У пэўнай краіне рэзка падаражэла ўсё: што ў два разы, што ў пяць, а што і ў дзесяць. І толькі спіртное, другі наш хлеб, — на сціплыя 10%. Давайце ўявім, што бутэлька белай падскочыла ў цане да 40-50 — і што з гэтага можа атрымацца.

Ля віна-гарэлачных крамаў і аддзелаў зранку адбудуцца стыхійныя мітынгі непахмеленых. Міліцыянтаў, што пастаўлены ахоўваць пункты, тут жа паб'юць і возьмуць у закладнікі. Самыя гарачыя і не зусім адпітыя галовы захочуць узяць паліцы штурмам.

Далей — болей. Арганізм, атручаны шматгадовым злоўжываннем, падніме бунт і павядзе мужчын хоць куды — хоць на крамлі, хоць на мясцовыя адміністрацыі. Пачнуцца вулічныя беспарадкі. Далучацца беспрацоўныя, лёгкая на пад'ём моладзь і футбольныя фанаты.

Аднекуль возьмуцца не толькі сацыяльныя, але і палітычныя лозунгі. Неяк самі па сабе ўсплывуць у памяці выбары ды іх наступствы. Тэмпература пратэсту рэзка падскочыць угору.

Крэўна зацікаўленая армія будзе трымаць нейтралітэт — з надзеяй сэканоміць у будучым частку заначкі. Міліцыю кінуць на ахову спіртова-гарэлачных складаў.

Жонкі інсургентаў падзеляцца на дзве групы. Тыя, хто мужам налівалі, падтрымаюць іх: выйдуць на марш з пустымі каструлямі. Тыя, што беспаспяхова ваююць з зялёным змеем, будуць лічыцца «пятай калонай».

Натоўп, самаарганізаваўшыся, выбера кіраўнічы штаб. Мысляры з інтэлігенцыі тут жа прапануюць новыя сцяг і герб: сцяг — зялёны з белым (гэта значыць змій з намёкам на каня), а герб — з вершнікам сярод пшаніцы. (Бо з травы яшчэ ніхто нічога талковага не выгнаў.)

Увойдуцьу моду зялёныя шалікі.

Адбудзецца дыскусія адносна новага гімна: адны прапануюць вядомы хіт «Ой ты віно, гаркота...», іншыя — «народную» песню «А я лягу, прылягу...».

Пытанне застанецца адкрытым. Дэвізам стыхійнага руху выберуць слоган «Алкаголікі ўсіх краін, яднайцеся!».

Сябры па няшчасці з Летувы і Польшчы папаўзуць да нас гужом цераз мяжу, а расійцы і ўкраінцы прыедуць на цягніках з цяжкімі сумкамі, з якіх будуць спакусліва вытыркацца родныя пробачкі.

На спецаўтобусах падвязуць працверазелую і не менш агрэсіўную правінцыю. Па тэле зноў раскажуць, што ва ўсім вінавата чужая прэса, якая раздзімае ажыятаж, і што ў крамах дастакова разнастайных якасных напояў на душу насельніцтва. Усе сінюшныя з урада і парламента, патаемна радуючыся, пойдуць на саступкі сасмяглым братам-пралетарыям.

Гэта будзе першая ў свеце рэвалюцыя пітушчых. Дэкрэт «Аб урэгуляванні цэнаў на спіртныя напоі» стане першым і апошнім дэкрэтам часовага ўрада.

Рэвалюцыйны натоўп самараспусціцца і будзе доўга, шумна і зноў з беспарадкамі адзначаць сваю перамогу. Тады нарэшце са схованкі выпаўзе зялёны змій і...

...«Досыць», — кажу я сваёй багатай фантазіі. Бо рэчаіснасць даўно пераўзыходзіць самыя крутыя антыўтопіі. І ці тое яшчэ будзе?



Фота Сяргея Плыткевіча

# «Праблема Луцкевіча»

## Да 140-годдзя «павадыра беларускага адраджэння»

Анатоль СІДАРЭВІЧ

Спачатку гіпотэза наконт арышту Антона Луцкевіча 12 кастрычніка 1927 года.

Польскія ўлады ведалі, што Луцкевіч не з'яўляецца сябрам Беларускае сялянска-работніцкае грамады, і таму ў студзені не арыштоўвалі яго разам з іншымі дзеячамі БСРГ. Час ішоў, і ўлады зразумелі, што ўчынілі памылку, бо Луцкевіч ствараў ім праблемы. Не толькі як публіцыст і фактычны рэдактар апазіцыйных газет, але і як палітычны дзеяч.

У нашай літаратуры яшчэ не даследаваны ход і вынікі выбарчай кампаніі ў органы мясцовага самакіравання ў Заходняй Беларусі, што адбывалася ўвосень 1927 года. Ва ўсякім разе я не сустракаў нейкага грунтоўнага артыкула на гэтую тэму. А выбарчая кампанія паказала, што нягледзячы на атмасферу тэрору, створаную пілсудчыкамі з падачы тутэйшага панства (нагадаю пра сустрэчу абшарнікаў з Юзафам Пілсудскім у Нясвіжы ўвосень 1926-га), пазіцыі прыхільнікаў Грамады былі яшчэ даволі моцныя. Гэта пацвердзяць і вынікі выбараў у Сойм і Сенат 1928 года. А кіравалі беларускай выбарчай акцыяй 1927-га Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў і, калі не памыляюся, Уладзімір Самойла. Вядома, маторам, як і ў 1922-ім, быў першы з іх. І не выключана было, што Луцкевіч узначаліць выбарчую акцыю 1928 года. Значыць, Луцкевіча належала ізаляваць.

Цалкам імаверна, што «праблема Луцкевіча» абмяркоўвалася на нарадзе, якую Юзаф Пілсудскі адбыў увечары 10 кастрычніка 1927-га ў Вільні. Пра тую нараду, у якой удзельнічалі пракурор апеляцыйнага суда, пракурор акруговага суда, начальнік аддзела бяспекі Віленскага ваяводства і куратар навучальнай акругі ды іншыя, можна прачытаць у газеце «Наша Праца» за 15 кастрычніка 1927 года. Можна думаць, што рашэнне аб арышце Луцкевіча было прынята тады.

Пра тое, як арышт Луцкевіча асвятляўся ў друку БССР, у прыватнасці «Зьвяздою» і «Савецкаю Беларусьсю», я пісаў у артыкуле «Хроніка пераломнага часу» [«Дзеяслоў», 2004, № 8(1)].

Арышт Луцкевіча быў выгадны і бальшавікам. Нават падвойна. Па-першае, палякі прыбралі Луцкевіча, якога бальшавікі ненавідзелі, але мусілі цярпець. Цяпер яны маглі выставіць у якасці правадыроў беларускага руху сваю цалкам паслухмяную крэатуру. Па-другое, пілсудчыкі далі магчымасць бальшавіцкай прапагандзе падняць новую хвалю антысанацыйнай, антыпольскай прапаганды і пад гэты шумок працягваць сваю палітыку ў БССР, а з 1926 года вастрыё гэтае палітыкі было накіравана супраць нацыянал-дэмакратаў (так былі названыя дзеячы беларускага руху пачатку XX стагоддзя, але нацыянал-дэмакратамі назвалі і маладых людзей, якія не былі ні аўтарамі «Нашае Нівы», ні сябрамі Беларускае сацыялістычнае грамады ды іншых партый, ні дзеячамі Беларускае Народнае Рэспублікі, але якія пераняла эстафету ад сваіх настаўнікаў, старэйшых сяброў і калег).



Антон Луцкевіч, 1918 г.

Цяпер паглядзім, як арышт Луцкевіча адлюстраваны ў заходнебеларускім друку.

24 верасня 1927 года выйшаў апошні нумар газеты «Наша Праўда». 1 кастрычніка замест яе пачала выходзіць газета «Наша Праца». 11 кастрычніка выйшаў яе чацвёрты нумар — апошні, рэдагаваны Луцкевічам.

12 кастрычніка Луцкевіча арыштавалі.

Чарговы, пяты, нумар «Нашае Працы» выйшаў 15 кастрычніка. На першай паласе змешчаны «Пратэст Беларускага Нацыянальнага Камітэту проці арышту грам. Антона Луцкевіча». У гэтым дакуменце Луцкевіч названы найстарэйшым беларускім дзеячам, які мае за сабою «трэць веку нацыянальнае працы», павадыром беларускага адраджэння. Наконт трацiны веку аўтары дакумента трохі перабольшылі, але што Луцкевіч стаяў (разам з іншымі, а потым і адзін) на чале беларускага руху, тое праўда. БНК выказваў сваё здзіўленне і глыбокае абурэнне з прычыны арышту, сцвердзіў, што гэты арышт з'яўляецца «новым ударам, скіраваным проці нацыянальнага беларускага руху», і заклікаў беларускае грамадзянства (грамадства) «да няўпыннай працы ў дзеле вызвольнай нацыянальнай барацьбы за свае правы».

Адзначым, што ў гэтым дакуменце БНК не запатрабваў неадкладнага вызвалення Луцкевіча. Пэўна, гэта недагляд яго аўтараў. Праўда, на трэцяй паласе ў рубрыцы «Наша хроніка» газета, паведамляючы, што 12 кастрычніка «ў сваім памешканьні на Віленскай вуліцы №8 з няведамае прычыны быў арыштаваны вядомы беларускі дзеяч, першы пачынальнік беларускага адраджэнскага руху, Антон Луцкевіч», выказвае спадзяванне, што «справа з арыштам будзе скора высьветлена і мы як у найхутчэйшым часе убачым грам. Луцкевіча — вольным».

Гэта мы чытаем у газеце левага кірунку. Цяпер цікава паглядзець, што ж пісалі аб арышце Луцкевіча ў газеце кірунку правага.

Паліцыя пачала ператрус у кватэры Антона Луцкевіча а палове на восьмую 12 кастрычніка. У той дзень рыхтаваўся чарговы нумар «Bielaruskaje Krynicy». Выйшаў ён у свет 14 кастрычніка. У гэтым нумары тыднёвіка нататка «Арышт гр. Луцкевіча» надрукавана на 4-й паласе, у рубрыцы «З Вільні», у апошняй калонцы дробным шрыфтам, затое на самым версе слупка. Вось яе тэкст:

*«12 г. м. улады арыштавалі гр. Антона Луцкевіча. “Kur[jer] Wil[enski]” падае, што арышт яго выкліканы апошнімі паказаньнямі Тарашкевіча і Астроўскага, як ведама, пасаджаных у турму ў справе “Грамады”».*

І to wszystko, як кажуць палякі.



Антон Луцкевіч з жонкай і дзецьмі. Пачатак 1920-х гг.

Праз тыдзень згадка пра арышт была змешчаная ў перадапошняй нататцы ў рубрыцы «З беларускага жыцьця»:

*«Сканфіскаваны 5-ты чарговы нумар газэты “Наша Праца”, якая пачала выходзіць замест “Нашай Праўды”. Сканфіскавана яна за пратэст проціў арышту Антона Луцкевіча і за верш Ільяшэвіча [1], які ўжо быў адзін раз друкаваны і праз цэнзуру прайшоў».*

Гэтыя дзве нататкі хадэцкае «Bielaruskaje Krynicy» цікава супаставіць з тым, што пісаў аб арышце Антона Луцкевіча лейб-орган тутэйшых абшарнікаў, зуброў, як іх назваў Пілсудскі, — газета «Słowo».

У нумары за 13 кастрычніка пасярэдзіне другой паласы змешчана падборка дробных «інфармашак»: «Цікавы прысуд амерыканскага суда», «Шалёная бура над Партугаліяй ды Італіяй», «Людэндорф перайшоў у старажытнагерманскае паганства». Падборку адкрывае інфармацыя з загалоўкам «Рэха ліквідацыі Грамады» і падзагалоўкам «Арышт А. Луцкевіча». Чытаем:

*«На загад пракурорскіх уладаў учора арыштаваны і пасаджаны ў вязніцу вядомы ў беларускіх колах палітычны дзеяч Антон Луцкевіч. Яго арышт звязаны з судовым следствам у справе, якое заканчваецца, і выкліканы выкрыццём шчыльнай сувязі і супрацоўніцтва Антона Луцкевіча з антыдзяржаўнай акцыяй кіраўнікоў Грамады, якія, як вядома, працяглы час знаходзяцца пад прэвентыўным арыштам у вязніцы ва Ўронках пад Познанню».*

Па сутнасці, інфармацыя і хадэцкае, і абшарніцкае газетаў ідэнтычная. У абшарніцкай газеце звяртаюць на сябе ўвагу словы «на загад пракурорскіх уладаў». Мы ж памятаем, што два пракуроры былі 10 кастрычніка на вячэрняй нарадзе ў Пілсудскага...

А цяпер вернемся да канфіскаванага пятага нумара газеты «Наша Праца». Аказваецца, Беларускі Нацыянальны Камітэт не толькі выказаў пратэст супраць арышту Антона Луцкевіча. БНК выступіў і з заявою, у якой мы чытаем:

*«Бел. Нацы[я]н. Кам. лічыць сваім абавязкам адзначыць наступнае зьявішча.*

*У працягу значнага часу орган Ф. Ярэміча, В. Рагулі і А. Більдзюкевіча [2] «Сялянская Ніва» і орган кс. Адама Станкевіча «Беларуская Крыніца» побач з польскім «Беларускім Словам» Паўлюкевічавым [3] друкавалі (і відочна тыя самыя людзі казалі асабіста тое, што друкавалі) няпраўдзівыя ведамасьці аб розных імі самымі выдуманых грамадзка-палітычных праступленьнях грам. А. Луцкевіча, чалавека, што ўсё сваё жыцьцё пасьвяціў справе Беларускага Народу.*




Брашура Антона Луцкевіча. 1920 г.

*Сярод гэтых несправядлівых нападаў найнягоднейшым было фальвышвае ўдаваньне грам. А. Луцкевіча ў тым, што быццам быў ён арганізатарам і кіраўніком зьліквідаванай «Грамады».*

*Гэтае і да яго падобнае фальшывае ўдаваньне не магло не прычыніцца да арышту 12/X.1927 г. грам. А. Луцкевіча польскай уладаю, чым быў нанесены ўдар Беларускаму Нацыянальнаму руху.*

*Ганьба правакатарам, што дзеля сваіх асабістых мэтаў сьвядома-фальшыва ўдавалі ідэйнага павадыра Беларускага Руху!*

*Слава барацьбіту-мучальніку за Беларускую Справу!».*

Мабыць, варта дадаць, што 10 кастрычніка 1927 года ў Вільні Пілсудскі не толькі праводзіў нарады — ён прымаў дэлегацыі і асобных дзеячаў. З усіх беларусаў у той дзень ён прыняў ксяндза Адама Станкевіча. Сустрэча, трэба думаць, была запланаваная. Пра што гутарылі Пілсудскі і правадыр Беларускай хрысціянскай дэмакратыі? Гэта загадка, якую ніхто не разгадае.

**Каментары**

1. На ўвазе меўся Хведар Ільяшэвіч (1910—1948), паэт, празаік, публіцыст, гісторык, грамадскі дзеяч і пэўны час супрацоўнік Антона Луцкевіча, малодшы брат гісторыка Мікалая Ільяшэвіча.

2. Пасол на Сойм Польскае Рэспублікі Фабіян Ярэміч (1891—1958), сенатар Васіль Рагуля (1879—1955) і грамадскі дзеяч Адам Більдзюкевіч (1895—?) былі ў той час лідэрамі Беларускага сялянскага саюза (1925—1929), партыі, створанай як альтэрнатыва Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. Газета «Сялянская Ніва» (1925—1930) была органам гэтае партыі, вяла кампанію супраць Антона Луцкевіча.

3. Газета «Беларускае Слова» выходзіла ў 1926—1928 гадах. Яе выдаўцом быў Арсень Паўлюкевіч (1889—?). Вяла кампанію супраць Антона Луцкевіча.

# Застаўся ў памяці маёй…

Тамара САКАЛОВА

У 1947 годзе, калі мне было сем гадоў, я ўпершыню ўбачыла Барыса Мікуліча ў вёсцы Церахавічы (ускраіна Лагойска) у свайго дзядулі — Вінцэся Антонавіча Мікуліча. Барыс мне запомніўся мужчынам сярэдняга росту, сівы, стройны, хуткі ў размове і рухах, таварыскі.

На ім быў пінжак у дробную клетку гарадскога крою. Такога адзення ў вясковых жыхароў не было. Барыс Міхайлавіч прыехаў па запрашэнні яго стрыечнага брата і майго дзядулі Вінцэся, а таксама маёй бабулі Анці Андрэеўны. Гэта адбылося пасля дзесяцігадовага адбыцця Барыса ў лагеры. Той час для яго быў цяжкім. Бабуля Анця, вельмі добрая, спагадная, часта наведвала царкву і спачувала сіротам з Бабруйска.

Барыс Мікуліч ужо бываў у нас у юнацкім узросце, калі застаўся сіратой. Пазней у Церахавічы неаднаразова прыязджала і меншая сястра Барыса — Марыя Міхайлаўна (Мура).

У вёсцы побач з намі жылі два меншыя браты дзядулі — Міхась і Аляксандр. Недалёка, у вёсцы Міхалава, жыла сястра Анця (у замужжы Фурс). У Бабруйску ж пражывала сястра Вера Антонаўна, якая і даглядала малалетніх дзяцей — Барыса і Марыю. Братоў і сясцёр у дзядулі было шмат, ён быў старэйшым. Хата ў дзядулі складалася з двух паловаў (пяцісценак). У першай палове, пярэднім пакоі, дзе была печ, праводзіліся ўсе гаспадарчыя працы і жылі гаспадары, у другой, святліцы, жылі госці.

Барыс Міхайлавіч наведваў усіх сваякоў, знаёмых, гутарыў з імі, прыходзілі і да яго сваякі, жыхары вёскі, журналісты, маладыя мясцовыя пісьменнікі, старшыня калгаса. Ён з усімі гутарыў, і атрыманы матэрыял увасабляў у творы. У аповесці «Жыццяпіс Вінцэся Шастака» прататыпам галоўнай дзеючай асобы з'яўляецца мой дзядуля Вінцэсь, а прозвішча Шостак аўтар запазычыў у суседа. У аповесці «Зялёны луг» апісваецца побыт сялянаў таго часу. Назва была «запазычана» ў вёскі, якая размяшчалася праз рэчку ад дзядулевай хаты.

Для плённай працы пісьменніка ў нас ствараліся спрыяльныя ўмовы, і таму ў Церахавічах было напісана шмат твораў.

Пасля вайны наша сям'я, як і ўсе іншыя, жыла бедна, але дружна. Я ніколі не чула разладу, дзяльбы грошай, папрокаў. У гаспадарцы была карова, набытая пасля вайны, была свіння, але карміць яе не было чым, і мы, унукі, пасвілі яе на выгане, на траве. Натуральна, сала там не было, ды і тое, што вырастала, пакідалася на вялікія святы, напрыклад, Вялікдзень. Былі пчолы, якіх даглядаў дзед, а пасля яго смерці — бабуля.

У калгаснікаў грошай не было, бо працадні не аплочваліся. На аплату падаткаў грошы высылаў сын Антон — ваенны лётчык, сябар і аднагодак Барыса Мікуліча. Мая маці працавала ў Лагойскай бальніцы медсястрой (а падчас вайны — у падпольным шпіталі) і атрымлівала пенсію за майго бацьку, які загінуў 10 красавіка 1945 года.

Нягледзячы на беднасць, усё лепшае для харчавання ішло гасцям. Малака ад каровы на ўсіх не хапала, але ніхто ў сям'і не абураўся.

У той час Барыс Мікуліч жыў у нас без дазволу ўладаў, таму даводзілася хавацца. Памятаю, як мая маці, Барыс Міхайлавіч і я абыходзілі бокам дом участковага міліцыянера…

У той час у Лагойску жыла сястра аднаго з ворагаў Барыса Міхайлавіча, які з'яўляўся крытыкам у Саюзе пісьменнікаў. Менавіта ён быў адным з тых,



Барыс Мікуліч. Турэмны здымак

па чыёй прычыне Мікуліч апынуўся ў Сібіры…

У «Аповесці для сябе» Мікуліч часта згадваў мяне, маю маці Марыю Тарайкоўскую (Маню), якая прывозіла Міхасю Лынькову творы Барыса: *«Вольга з двума дзецьмі, — пакутлівы, але ўсё такі ж тонкі, прыгожы твар. Маня — малайчына, і яе дачка (мая ўнучка!) вялікалобае, сінявокае дзіва», «Хадзіў з Томай у Лагойск… мае пакупкі абмежаваліся пячэннем для Томы», «Маня, прынесла «тое» (так гаворыць Тома, калі не ведае, як назва, ці не хоча назваць, — мама, дай «тога»), і гэта ўсё выклікала сумную ўсмешку — цана ўсім складанасцям!», «…разводы, скандалы, бацькі, дзеці, складаныя "інтрыгі", слёзы Томы…», «Потым зламілі велізарнага філанта, які ўчапіуся-такі за Томін дапытлівы палец…».*

У нашым сямейным архіве ёсць сумесная фатаграфія з Барысам Міхайлавічам, зробленая восенню 1947 года, калі ён ад'язджаў ад дзядулі ў Бабруйск і маці яго праводзіла з Лагойска. У той дзень у Мінску ён атрымаў даведку аб рэабілітацыі і, на радасцях, яны зайшлі ў фотасалон на Камароўцы.

У 1946 годзе адразу пасля вызвалення Барыс адправіўся ў Ашхабад, да сваёй старэйшай сястры Каці. На жаль, яе фатаграфіі ў нас не захавалася. Пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, мой сусед па Вайсковым завулку, успамінаў, што Каця была вельмі прыгожая і добра спявала, была опернай артысткай. (З 1962 года я жыла ў Мінску па Вайсковым завулку, дзе жыў і Барыс Мікуліч, а праз дарогу ад яго знаходзіўся дом Змітрака Бядулі, з якім ён сябраваў.)

У Каці Барыс пражыў усяго паўгода, а ў 1948-м сястра разам з дзецьмі трагічна загінула падчас землятрусу.

Малодшая сястра Барыса Марыя пасля смерці маці жыла ў Бабруйску ў сярэдняй сястры Жэні — настаўніцы Парыцкай школы, а пазней — у Мінску ў Барыса Мікуліча. Яна мне расказвала, што вучылася ў мінскай школе № 20 па праспекце Незалежнасці (побач з плошчай Якуба Коласа). З сястрой Барыса Марыяй мы часам падтрымлівалі сувязь, але паколькі ва ўсіх былі ўжо свае сем'і, клопаты — не так часта, як хацелася б цяпер. Пасля Мінска яна з'ехала ў Бабруйск, дзе ў яе былі сябры, але бабруйчане яе сустрэлі няветліва пасля апублікавання «Аповесці для сябе» Барыса Мікуліча, дзе згадваліся непажаданыя для некаторых моманты…

Пасля другога арышту Барыса вясной 1949 года бабуля, як магла, падтрымлівала яго. Памятаю, як рыхтаваліся тварожныя сыры для адпраўкі ў Сібір (іх папярэдне высушвалі ў печы, каб не псаваліся ў дарозе). Барыс Мікуліч успамінаў, якім важным быў яму гэтыя клопат, хоць «каменныя посныя сыры было цяжка есці».

Бабуля была непісьменная і не магла пісаць лісты. Гэта я, васьмі-дзевяцігадовая дзяўчынка, пад дыктоўку бабулі пісала яму лісты дзіцячымі крамзолямі. Адзін з такіх лістоў, на шматку паперы са школьнага сшытка, ён вельмі бярог. Гэты ліст пасля смерці Барыса яго жонка разам з іншымі паперамі даслала Муры, якая і перадала яго мне.

Памятаю, як ён дасылаў віншавальныя паштоўкі і пісаў: «И вечный бой! Покой нам только снится!». Як я цяпер разумею, гэтыя фразы з яго любімага Аляксандра Блока, на якога ён быў падобны знешне…

Барыс быў даволі сціплы ў побыце і добразычлівы да навакольных. Калі да яго ў Мінск прыязджалі сваякі з вёскі Церахавічы, апранутыя ў «кажух», не па гарадскому, пляменнік і сябар Антон Мікуліч саромеўся іх, Барыс жа быў ветлівы, усюды суправаджаў.

З дзённіка і лістоў Барыса Міхайлавіча, з водгукаў пра яго я вымалёўваю сумленнага, справядлівага, таленавітага і працавітага чалавека. Міхась Лынькоў тое заўважыў і запрасіў яго, 19-гадовага, у сваю рэдакцыю ў Мінск (1929 год) [У той час Міхась Лынькоў быў рэдактарам *бабруйскай* акруговай газеты «Камуніст». — *Рэд.*].



Барыс Мікуліч з жонкай Марыяй і прыёмным сынам Жэнем. 1953 г.

Акрамя асноўнай працы ў рэдакцыі, за пяць гадоў Барыс Мікуліч выдаў сем кніг, надрукаваў вялікую колькасць нарысаў, рэцэнзій.

У 1934—1936 гадах яму было даручана праводзенне з'езда пісьменнікаў, уступнае і заключнае слова.

Бабуля Анця ўспамінала, што спачатку ў Мінску Барыса прытуліў адзін чуллівы чалавек, які жыў у маленечкім пакойчыку, таму спаць Барысу даводзілася на дыванку ля дзвярэй. Такое ж становішча было ў Барыса і пасля ссылкі ў 1947 годзе ў Бабруйску. Бацькоўская хата згарэла падчас вайны, і ён жыў у стрыечнай сястры Веры Антонаўны Мікуліч.

Барыс пісаў у вельмі складаных умовах, але гэта было для яго жыццёва неабходна, як дыхаць.

Пасля рэабілітацыі ён спрабаваў друкаваць свае творы. Гэта было і сэнсам усяго яго жыцця, і матэрыяльнай крыніцай для існавання.

Уся перапіска з Саюзам пісьменнікаў, рэдактарамі зводзілася да абяцанняў і зацягвання пытання аб публікацыі. У Саюзе пісьменнікаў былі здзіўленыя яго вяртаннем пасля 10-гадовай адсутнасці, але не вельмі радыя — ім не патрэбны быў таленавіты канкурэнт.

Да публікацыі твораў Барыса Мікуліча справа так і не дайшла. Пісьменнік быў паўторна сасланы ў Сібір, дзе і памёр у 42 гады. У адрозненне ад яго «добразычліўцаў», якія пражылі доўгае «сытнае» жыццё, былі забяспечаны спецпайкамі, паслугамі спецпаліклінікі, добрымі пасадамі для сябе і дзяцей…

Усё б так і засталося, калі б зусім чужыя людзі, якія не ведалі Барыса Мікуліча асабіста, сталі згадваць пра яго. У Лагойскай сярэдняй школе №1 выкладчыца беларускай мовы Вера Рыгораўна Саўрыцкая, мая зямлячка, сабрала матэрыял пра беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і пра Барыса Мікуліча, і адкрыла ў школе музей. Цяпер там праходзяць урокі па яго творах. У Краснаярскім краі, у вёсцы Машукоўка, дзе жыў апошнія гады і памёр Барыс Міхайлавіч, мясцовыя жыхары шануюць яго памяць, даглядаюць за магілай. Настаўнік гісторыі мясцовай школы Міхаіл Георгіевіч Захарцоў арганізаваў там музей Барыса Мікуліча.

У 2012 годзе ў Лагойск разам са школьнікамі-краязнаўцамі прыехала загадчыца бібліятэкі №4 горада Бабруйска Святлана Віктараўна Калюта, каб пабываць у мясцінах, дзе жыў Барыс Мікуліч. У гэты час я была там і арганізавала экскурсію. З тых часоў мы сябруем. Па яе запрашэнні я прымала ўдзел у мерапрыемстве, мэтай якога было прысваенне бібліятэцы імя Барыса Мікуліча ў снежні 2012 года.

Паколькі гісторыя жыцця і творчасці Барыса Мікуліча малавядомая і малавывучаная, я стала збіраць пра яго матэрыялы па бібліятэках і архівах, якія захаваліся з 1927 года. На жаль, зніклі ненадрукаваныя рукапісы твораў, лісты з архіву Акадэміі навук. У 1936 годзе, спалохаўшысяператрусу, цешча спаліла ўсе яго рукапісы. У 1942-м зніклі перададзеныя на волю праз вызваленую жанчыну рукапісы…

Пасля раптоўнай смерці Барыса Міхайлавіча ў Сібіры знік партфель з яго творамі, над якімі ён працаваў у вольны час. Таксама знік і яго дзённік.

Мемарыяльная шыльда на доме дзядулі, дзе жыў Барыс Мікуліч, была скрадзена.

«Злы рок» пераследваў яго пры жыцці і не дае спакою пасля смерці. Аднак праўда і справядлівасць павінны перамагчы, хоць і са спазненнем, і не толькі ў сэрцах землякоў, сваякоў, але і ў свядомасці беларускай нацыі.

# І знікла прозвішча…



Альжбета КЕДА

Калі мама чула песню пра тое, што *і сама я красіва, і харошага роду, але доля нешчасліва*, згадвала сваю маму, бабулю Маню. Быццам тая любіла гэтую песню цытаваць. Не спяваць, бо хіба ніколі не спявала, хоць голас мела чысты, звонкі, а менавіта прагаворваць, маючы на ўвазе сябе, свой род.

Мая антанёўская бабуля Маня родам з Лядкаў, з заможнае сям'і Рыгора і Ксеніі Кедаў. Па-вулічнаму называлі іх Якавымі. Бацька гаспадара быў Якаў. Маці Ксенія з сям'і Вікенцевых. Жылі ў пачатку вёскі. Сёння яшчэ ёсць знакі ад іхняе сядзібы: высокая ліпа пры плоце, добры склеп. Праўда, не Рыгоравы, а сына ягонага Сашы, які ў бацькоўскай хаце звекаваў.

Тая рана не загаілася ў сэрцы Рыгора Кеды, заможнага гаспадара з Лядкаў. Двое старэйшых сыноў, Мікалай і Іван, леглі пад Петраградам у 1919-ым. І магілкі па іх не засталося. Аднаму васямнаццаць, другому шаснаццаць.

З жонкай Ксеняй і шасцю дзеткамі, сынамі Мікалаем, Іванам, Сашам, Пятром, дочкамі Маняю і Шураю, у пачатку XX стагоддзя падаўся Рыгор у Санкт-Пецярбург лепшае долі шукаць. І знайшоў. Працаваў на Пуцілаўскім заводзе. Належна забяспечваў вялікую сям'ю. Усяго хапала. Дзеці ў школу хадзілі. Жонка — хатняя гаспадыня. Хапала ёй працы дома. Мог рабочы ў дарэвалюцыйнай Расіі дазволіць жонцы не працаваць.

Штодня гатавала гаспадыня вялікі кацёл мяса. Добра запомнілася гэта Мані. І нават калі вайна пачалася, не збяднелі. А вось калі адбыўся бальшавіцкі пераварот ды бальшавікі пачалі гаспадарыць, зазналі людзі гора. Голад настаў.

Але самае страшнае — тэрор… Бабуля не ведала слова тэрор. Але яна добра памятала, што выбіралі бальшавікі ў Санкт-Пецярбурзе. Абвяшчаюць, што там і там будуць прадаваць хлеб. Людзі, што ўжо зведалі голад, а грошы і каштоўнасці мелі, бягуць туды. Іх акружаюць чырвонаармейцы і пачынаюць страляць. Бабуля са сваёй маці траплялі ў такія сітуацыі. Запомнілася ёй, як людзі перад смерцю станавіліся на калені, прасілі толькі аб адным: дазволіць памаліцца, а ім і гэтага не дазвалялі. Стралялі без разбору. А людзі ўсе прыстойныя (бабуліна ўлюбёнае слоўца), апранутыя хораша. Чаму ж ім памаліцца нават не давалі? Гэта яе абурала найбольш.

Страціць жыццё было вельмі проста. Бацькі баяліся найперш за дзяцей. А тут новая ўлада аб'явіла пра набор у афіцэрскую школу. На два гады. Не меней васямнаццаці гадоў павінны былі мець юнакі. Кедавы былі маладзейшыя: аднаму сямнаццаць, другому яшчэ і шаснаццаці не было. Дакументаў жа ніякіх не правяралі. Падумаў Рыгор і так вырашыў: «Аддамо. Хай вучацца». Дадаў бацька гадочкаў, бо сыны, як амаль усе Кеды, высокія былі, пад два метры, дужыя.

Навука ж нейкаю незразумелаю, недарэчнаю аказалася. Вярталіся хлопцы вечарам дахаты і падалі, бы падкошаныя. Дзівіліся бацькі, што гэта за афіцэрская навука такая, калі іхнія здаровыя, моцныя сыны вытрымаць не могуць. Ніякіх заняткаў у класах, як тое ўяўлялася, не было. Адна страшэнная муштра. Ганялі іх цэлымі днямі. А кармілі нейкімі памыямі. Вечарам не да стала беглі, а да ложка, бо вярталіся позна, а ўставаць рана даводзілася. Выхадалі хлопцы. Усяго некалькі месяцаў гэта доўжылася. Восенню пагналі іх у бой. Супраць белага войска. І ў першым жа баі загінулі Рыгоравы сыночкі. Мікалай і Іван…

«Саветы — зладзеі, абманшчыкі, бандыты», — усё жыццё паўтарала Маня, памятаючы тую «афіцэрскую» школу і смерць сваіх братоў. З таго часу да канца жыцця ненавідзела яна бальшавікоў і ўсё, што было звязана з савецкай уладай. У тыя пецярбургскія часы ёй неаднойчы даводзілася бачыць бальшавіцкіх лідэраў. Пра Леніна казала: «Што пра яго расказваць? Малы, гаркавы, брыдкі. Вось Троцкі прыгожы, высокі. І гаварыў хораша».

Пасля страты старэйшых хлопцаў нішто ўжо больш не трымала Кедаў у галоднай бальшавіцкай сталіцы. Не так проста гэта было, але неяк выбраліся ўсё ж Кеды з колісь багатага горада, каб вярнуцца ў свае Лядкі.

Суцішылася гора, абжывацца наноў пачалі. Дзіцятка нарадзілася. Сын. Валодзем назвалі. «Дзякаваць Богу, гэты вырасце. Не яго ўжо вайны не будзе!» — упэўнена прарочыў бацька.

Кеды прывезлі з Пецярбурга мех грошай, «керанак», якія ў нашым краі нельга было скарыстаць (з імі пасля дзеці гулялі), і царскіх рублёў, якія на першым часе былі ў хадзе. Але і тут няшчасце напаткала. Паехалі на рынак, а грошы тыя, якіх вельмі многа было, паклалі ў мяшок, у які авёс коням насыпалі. Агледзеліся, а мяшка няма. Украў нехта. Так нічога і не купілі…

Але яшчэ большай бядою стала іншае. Сваяк, якому зямлю перад ад'ездам пакінулі, не захацеў вяртаць яе прадзеду Рыгору. Дакументаў жа ніякіх не было. І тады пачаўся суд. Як пра нейкую страшную навалу згадвала бабуля пра той суд у часы панскай Польшчы. Цягнуўся ён доўга, гадоў сем. Бацька толькі паспяваў адвозіць грошы ў Навагрудак. З таго часу ўсё, што звязана з судом, лічылася ў нашых сем'ях чымсьці накшталт страшнай бяды, вайны ці пажару.

І вось нарэшце прыйшоў той суд. І выйграў яго прадзед Рыгор. Не толькі сваю зямлю вярнуў, але яшчэ і частку зямлі таго сваяка яму прысудзілі. Стала сям'я Кедаў заможнай.

Любілі ўсе малодшанькага Валодзю, песцілі. А ён такі ўдалы, разумненькі рос! Да навукі здольны. Вырашыў бацька: «Вучыць будзем Валодзю на настаўніка. А на гаспадарцы хай старэйшыя, Пеця з Сашам, застаюцца». Не дачакаўся бацька, калі ўлюбёны сыночак дыплом настаўніка атрымае. Памёр раптоўна вясною 1932 года. На помніку, які ставіў Пеця, дата смерці не пазначана. З апошніх малодшае дачкі Нюшы вядома, што на пахаванне бацькі Маня з Антанёва не з'явілася, бо карміла малую Валю. Таму выправіла Петрыка. Валя насамрэч з 1931 года. Нарадзілася восенню. То і выпадае, што памёр Рыгор Кеда ў 1932 годзе. Была ранняя, халодная вясна. Разводдзе. Крыгі па рацэ нясуцца. Нёман, як заўсёды, калі пільная патрэба на другі бок трапіць, бушаваў. Упрасіў Петрык лодачніка перавесці на другі бок. Як той неаднекваўся, але пагадзіўся, бо прычына была надта паважная.

Вырушылі ў нялёгкі шлях. На сярэдзіне ракі лодка перакулілася. Петрык апынуўся ў ледзяной вадзе, між крыгаў. Ледзьве выбавіў яго лодачнік ад страшнае смерці. Пашчасціла жывым застацца. Таму і не магла Маня ў такую страшную дарогу выбрацца.



Фота Паўла Марціньчыка

Да Лядак Петрык ляцеў лятам, каб не адубець. У мокрай адзежы, абутку. З'явіўся ў хату, яго адразу на печ, адагравацца. Адзенне сухое знайшлі…

Вось жа, закончыў Валодзя школу, у гімназію паступіў. Ажно ў Пінск. Не магу даўмецца, чаму так далёка. Навагрудак жа побач. Ніхто мне пра тое не скажа. Мама апавядала, якой сур'ёзнай была адукацыя. Дасканала ведаў замежную мову (нямецкую), вывучаліся там усе асноўныя прадметы. Лёгка навука давалася. І летам, калі на вакацыі прыязджаў, увесь час заняты быў. Чытаў многа. Нейкія доследы з раслінамі праводзіў. Адводзілі яму дзялянку ў агародзе, дзе вырошчваў расліны. Усё запісваў, замалёўваў, гербарыі рабіў. Вяртаўся восенню ў гімназію не з пустымі рукамі.

Паспеў настаўнікам папрацаваць. Дзе працаваў, у якой школе? Пляменніца ягоная Валя, Маніна дачка, падарунак ад дзядзькі мела — кнігу для чытання, для пачатковых класаў. Вельмі ў школу хацела. Пайшла са сваёю кнігаю, а яе не прымаюць: гадоў не стае. Вярнулася дахаты — плачучы. А вечарам пан настаўнік прыходзіць да Петрыкавых і просіць у Мані кнігу, бо не было такое ў ягонай школе. Маня яму ўмову катэгарычную: «Возьмеце Валю ў школу, то і кнігу дам». Вось так дапамог дзядзькаў падарунак Валі ў школу раней пайсці…

Двое селядоршых (чула неаднойчы і на маёй Карэліччыне такое слова) Саша і Пеця на гаспадарцы працавалі. Квітнела гаспадарка. Усяго ўдосталь было. Лепш бы не было. Бо ў 1939-ым, калі прыйшлі Саветы, сталі нашы Кеды ворагамі, кулакамі. Перад вайною саслалі хлопцаў далёка-далёка. Трапілі на вайсковы завод недзе на Урале. Во ўжо была катарга! Праца знясільвала страшэнна. А карміліпалівакаю з гнілое брукчі. Толькі адночкі за ўсе доўгія гады няволі далі сапраўдную ежу: камісія з Масквы на завод прыязджала. Згадваў Саша, як голад даймаў, як прыходзіў у мроях ягоных водар бульбы, якую маці ў карыце свінням секла. «Як бы я тую свіную картоплю еў!» — казаў неаднойчы.

Пасля вызвалення вярнуўся Саша ў свае Лядкі, дзе і пражыў да самае смерці ў бацькоўскай хаце. Не ажаніўся. Як некалі сваццця па Мані Ганна Бандарык не дазволіла сыну Івану ўзяць замуж Стэпку Нічыпараву, так і Ксенія Кеда не дазволіла Сашу ажаніцца з каханаю дзяўчынаю. Размова тут, праўда, не пра пасаг была. Ганьбу сям'і дзяўчыны маці давала:

— Што там за род? Няўжо не ведаеш? Якіх дзяцей яна табе народзіць? Што гэта будзе за племя?..

Так і не ажаніўся прыгожы, высокі, працавіты Саша. Пасля смерці маці застаўся ён гаспадаром. І сярэдняя сястра Шура пры ім жыла. Штолета прыязджала малодшая Нюша з сям'ёю. Дапамагаў ёй Саша, за бацьку быў. А муж Нюшы, Міхаіл Бубліс, Сашу ва ўсім дапамагаў. Склеп, які і сёння на сядзібе, разам будавалі.

А Пеця не захацеў дадому пасля той пакуты вяртацца, з'ехаў у Рыгу. З таго часу і сталі называць яго ў сям'і Пецька Рыжаскі. Усё жыццё працаваў там шафёрам. Узяў замуж хітрую кабету, Надзю-ўсходніцу, што ў вайну страціла сям'ю, адкульсьці з Магілёўшчыны. Выгадавалі яны двое дзяцей: Валодзю, што жыве ў Рызе, і Тамару, якая зараз у Санкт-Пецярбурзе. Тамара ў дзяцінстве часта ў Лядках бывала. У дзядзькавай хаце, разам з дачкою Нюшы, таксама Тамарай.

Сувязь з Рыжаскімі мы страцілі. Ездзіла ў Рыгу напрыканцы васьмідзясятых, знайшла там сваякоў, яшчэ і Надзя жыла. Але была расчараваная тым, што нічога ім нецікава ведаць ні пра род беларускі, ні пра карані свае. Жонка Валодзі латышка, сыночка, адзінага нашчадка вялікага роду, што носіць прозвішча Кедаў, выхоўвае латышом. А бацьку больш цікавяць справы празаічныя. Страчаныя яны для нас…

Наведала магілу дзеда Пецькі. Дагледжаная магіла, сціплы крыжык, што зрабілі яго сябры. Усё збіраюся знайсці Тамару, якую памятаю з дзяцінства, прыязджала да нас у Шчонава напрыканцы шасцідзясятых, вельмі тады я яе палюбіла. Плакала, што спаць мяне з ёю не паклалі, з гонарам казала сяброўкам, што наша Тамара па-латышску гаварыць умее. Але ўсё адкладваю гэта да лепшага, вальнейшага часу, а яшчэ баюся расчаравацца, як тады ў Рызе.

Думаецца цяпер: «А калі б не рэпрэсавалі сярэдніх Кедавых хлопцаў? Калі б не вывезлі да вайны? У сорак чацвёртым абавязкова на фронт забралі б. Там выжыць шансаў у Рыгоравых хлопцаў менеей было…»

Памыліўся Рыгор са сваім прароцтвам. І малодшага ягонага сыночка вайна не абмінула. Адразу ж па вызваленні забралі яго на фронт. 22. 07. 1944 — дата прызыву. А 17. 10. 1944-га загінуў у Літве, пад Каўнасам, каля вёскі Патвеце. Ляжыць у брацкай магіле з усходняга боку, рад 3, месца 9. У інтэрнэце знайшліся гэтыя звесткі. На жаль, з памылкамі: год нараджэння Валодзі 1924-ы, а не 1913-ы. І месца нараджэння — вёска Лядкі, а не Ленінград. Усяго дваццаць гадочкаў яму было. Савецкія следапыты прыслалі былі цёці Нюшы ліст, у якім расказалі, як загінуў яе брат, дзе магіла. На жаль, цёця Нюша той ліст не зберагла.

Звялося прозвішча нашых прыгожых Кедаў…

# Вымярэнне свабоды



Дар'я МАЦЕША

***

*цеплыня
хрысціянскі сум
космас
будыскі спакой
меланхолія
бронзавы бляск
ззянне скуры
смуга над бяздоннем
салёныя рэкі
пяшчоты маўчання
асацыятыўныя сполахі
перацякаюць
з адной абалонкі ў другую
мы сфера*

***

*знікненне
ў старой-старой хаце
ў высокай-высокай траве
ў несабраных агромністых яблыках
у некранутых
разбухлых
святлом перапоўненых слівах
у ссохлых ад часу
зусім бязважкіх
ціхіх кошыках
у хаатычных
буйных
жоўтых красках
у печы гарачай
у чыстым паветры
ў маўчанні
ў нябыце
за плотам...*

*ніхто не патрапіць да нас
не заб'е нас
не ўбачыць...*

***

*Скуль ведама,
што я табой валодаю,
што ма́ю здольнасць спазнаваць цябе,
што магу прасякнуцца табой,
не атруціўшы сэрца.
Твой сінтаксіс
перабудоўвае матрыцу Свету,
амаль незаўважна перастаўляючы
канструкцыі.
Твае займенні
надаюць да звычных з'яваў
новыя свомасці
(іх часам немагчыма пазнаць).
Гэта ты эксперыментуеш
з маёй падсвядомасцю.
Не аб'ект, а суб'ект.*

***

*ў пусціні
мацней адчуваюцца
кроплі пяшчоты
й кавалкі мастацтва —
прычына застацца
разрэджаным дыхаць паветрам
стварыць дом
з чырвонае цэглы
абвіць вінаградам лазою
прыціснуцца да прыгажосці
нібы да прытулку*

***

*Беларусь выцякае скрозь пальцы
і часам здаецца
няма за што ўзяцца рукою
адзіная пэўнасць — пяшчота
празрыстая, тонкая
колеру цела
прастора, у якой можна жыць —
адчуваю Цябе
а яшчэ
боль нязгоды з людзьмі
боль нявызначанасці краіны
боль незацвярдзеласці межаў
мо боль нас акрэсліць?*

***

*мне снілася
як мы абдымаемся
лежачы на драўляным ложку
ў блакітным пакоі
вясковай хаты
мы не размаўляем
а дыхаем
гэта так лёгка...
з веранды ліецца
настолькі насычанае сонцам паветра
што не бачна прадметаў
а толькі адценні й абрысы...
ў прадчуванні дарогі
мы не абжываемся ў хаце
не лапім старыя падлогу й сцены
не назапашваем дровы
а толькі ўбіраем цяплынь
у апошнія імгненні
заціша...*

***

*Без лісця
цалкам бачная
дасканалая форма дрэва
сваім целам
яно камунікуе з Сусветам
яго галіны — выказванні
паведамленні да неба
а карані — да зямлі
такім чынам
вышэйшыя за людзей істоты
знаходзяцца адразу
ў двух вымярэннях
іх маўклівая цывілізацыя
самая непасціжная*

***

*Прыцягненне
начнога зімовага лесу
неадольнае
ён вабіць глыбокім маўчаннем
сканцэнтраванасцю
настолькі міфічным выглядам
нібы твой абавязак — увайсці ў яго
блукаць несканчона доўга
і ўрэшце ўваліцца ў сумёт ад стомы
глядзець як велізарныя ствалы
цяжка хістаюцца
скрабуць неба
як бліскаюць іскры ў цемрадзі
слухаць працяглае УЎЎЎЎЎ
памерці ад жаху
і вярнуцца нараджэнцам
калі новае сонца
ўзыдзе над ацаленым Светам*

***

*калі сонца прабіваецца ў горад
з'яўляецца дадатковая прастора
каб дыхаць
няспешна разглядаць будынкі
нібы ўпершыню сустрэўшыся
радавацца без дай прычыны
як дзіцянё ўсёй істотай
успомніць што каханне ёсць музыкай
аргана і скрыпкі
верыць («таму што абсурдна»)
ва ўсеагульнае ўратаванне
захоўваць імгненні жыцця
як кавалкі мастацтва
ў памяці*

**Балет**

*ты напружваеш цела
выцягваешся ў тугую струну —*



Фота Ланы Красікавай

*каб нарадзіць Прыгажосць
зліўшыся з музыкай
становішся паўпразрыстым
бязважкім ад болю
затрымліваеш дыханне ў палёце
ліешся вадою ў паветры
ператвараешся ў шоўк
дакранаючыся да іншага цела
зноўку ўзнімаешся
круцішся апантана хутка
(!)
і рэзка застываеш
крышталёвай скульптурай...
апускаешся долу пёркам
і ў гэты момант
адчуваеш
(моцна як аніколі ў жыцці)
катарсіс
чыстае Каханне,
што запаўняе сабою Сусвет*

***

*нашая музыка
ўзбагачаецца мелодыямі
смутку й тугі
інтымнымі камернымі
дысанансамі
найдалікатнейшымі інтанацыямі
бесперапыннымі метамарфозамі
стану
бязглуздымі дробязямі
рэзанансными дотыкамі
нечаканым экстазам сугуччаў
сапраўдная жывая музыка
якая кранае сэрца
поўная стогнаў шчасця й
імгненняў жалю
музыка кахання*

***

*тваёй сутнасцю
ёсць таямніца
куды
няма доступу
як да чужога жытла
я сумую
ад непранікальнасці
неадпаведнасці
нашых памераў
Сусвет
але й я
невядомая
«рэч у сабе»
хоць і мікра...*

***

*«C'est une belle journee».*

*Я — збыткоўнасць
я маю адзіную здольнасць —
збіраць камяні
бачыць колеры й цені
скрозь шкло меланхоліі
плакаць над сметнікам
над непатрэбнымі лялькамі
над прыгажосцю...
бясконца глядзець
як хістаюцца дрэвы
ў маўчанні*

***

*кахаючы
я перастала баяцца пчолак
цяпер не крычу
не нервуюся
не намагаюся іх адагнаць —
нерухома ляжу (як і Ты)
на траве
покуль тыя
збіраюць нектар
з майго цела*

***

*«Засынаць, прачынацца
слухаць галасы рыб...»*

**І. Б.**

*...у гэты час
падаюцца сны
больш аўтэнтычнымі
чым па-за снамі
йснаванне
ў іх бачыш
нябёсныя знакі
шляхі да нязведанага
вымярэння свабоды
магчымасць
трымацца ў паветры,
наноў прыдумляючы story
й навогул
нашмат болей сэнсу
чым...*

***

*чаму вершы?
таму што яны вертыкальныя
як ствалы дрэваў
сцяблiны раслінаў
прамені святла...
мне заўсёды
хацелася быць вертыкальнай
(напэўна таму што я круглая)...
вершы
падобныя
на старажытную зброю
на стрэлы й мячы
калі ж я
адчуваю сябе ўсё жыццё
ваяром у душы
здольным біцца за Княства
(якога няма)
што зрабіць
застаецца пісаць.*

**радзіма**

*спакушала мяне
велізарнымі яблыкамі
засалодкімі ягадамі
дзікай вольнасцю лесу
жнівеньскай млоснай спякотай
пульсуючым мёдам
бурштынам
распараным возерам
водарам траў
буйным дажджом
збожжам саспелым
начной навальніцай над полем
шаптала
ці споўненыя ўсе жаданні?
адказвала
любая, не
ўсе жаданні мае
толькі птушка спаўняе...*

***

*такое каханне
бывае хіба толькі ў жніўні
калі найвастрэй
адчуваецца хісткасць пачуццяў
імгненняў святла
знітаванняў
між places and people
калі навакольнае
ведае пра немінучыя страты
пяшчотна
захоўваеш Miensk
неакрэсленасць стану
ў свядомасці
покуль не ажыццявіліся
метамарфозы...*

# Чатыры аповеды



Платон СТАНКЕВІЧ

## Госць

Дзверы былі зачынены. Нехта пагрукаў. Дрыжыкі прабеглі па маёй скуры. Ужо даўно я не чуў гэтага гуку, ды й не чакаў пачуць, асабліва аб адзінаццатай начы. «Хто гэта мог быць?» — падумаў я, затаіўшы дыханне, чакаючы, што грукат зноў паўторыцца.

Але ён не паўтараўся. Наадварот, утварылася гнятлівая цішыня, якая ціснула на вушы, запаўняла ўсю галаву. Мне хацелася скруціцца абаранкам у сваім утульным ложку і заснуць моцным сном, аднак грукат не даваў мне спакою. Той, хто пагрукаў, не даваў мне спакою. Бо дзіўна гэта: грукаць аб адзінаццатай начы ў чужыя дзверы.

Гэта можа быць хто заўгодна, ад рабаўніка да наркамана.

«Але ж гэта глупства, рабаўнік ніколі не будзе стукаць у дзверы ўначы, тым ён сам сябе "здасць", — падумаў я, — ды і наркаманы, хоць стварэнні начныя, не будуць, каб папрасіць грошай на дозу, у нашым краі яны не ветлівыя».

Магчыма, гэта прыйшлі міліцыянты, каб апытаць мясцовых, бо зусім нядаўна я чуў крыкі, а потым стрэлы на маёй вуліцы.

«Але ж міліцыянты не ходзяць познім часам па хатах, каб людзей апытваць. Ды нават калі б і хадзілі, патэлефанавалі загадзя б, — думаў я, аспрэчваючы сваё ж меркаванне. З большай верагоднасцю гэта магла прыйсці мая суседка папрасіць нешта, бо такое было ўжо некалькі разоў. І раней увечары таксама прыходзіла, канешне, не так позна, але ўсё роўна прыходзіла. Магчыма, ёй патрэбна дапамога?»

Я ўстаў з крэсла і пайшоў да дзвярэй цёмным калідорам. Святло наўмысна не запальваў — навошта камусьці ведаць, ці я дома, ці я не сплю?

Грук паўтарыўся. Я застыў на месцы, услухоўваючыся ў цішыню, якая яшчэ мацней пачала ціснуць на вушы.

«Зусім нядаўна я чуў крыкі на вуліцы… — падумаў, узгадваючы падзеі нядаўніх дзён, — а што, калі кагосьці забілі? А што, калі… А што, калі зараз заб'юць і мяне?»

З гэтай думкай я вярнуўся да крэсла і сеў. Ніякай суседцы ўжо не хацелася дапамагаць, хацелася толькі легчы абаранкам ва ўтульным ложку, які пачаў здавацца мне яшчэ больш утульным.

«А што, калі сапраўды суседка прыйшла? А нават калі і рабаўнік, — разважаў я, — то наўрад ці ўзброены. Тады былі чутны крыкі, то бок была бойка, і таму можна даць супраціў. Ёсць цудоўная, хоць і старая, дзедава стрэльба, якая дагэтуль спраўна працуе».

І сапраўды, узяўшы стрэльбу ў рукі і зарадзіўшы яе, я адчуў прыліў смеласці і скіраваўся да дзвярэй. Запаліў святло ў калідоры. Нікога не баяўся. І вось ужо я цягнуся да дзвярной ручкі і… спыняюся. Жах ахапіў мяне, Цяжкім камяком пракатваецца сліна па горле. Пот выступіў на ілбе. А што, калі за дзвярыма не «хто», а «што»? А што, калі гэта нехта нежывы? А што, калі гэта… Смерць?

Цяпер я стаяў нерухомым слупом, трымаючы стрэльбу ў руках. Стрэльба была прызначана рабаўнікам, аднак нават і без стрэльбы я б іх не баяўся. Я меў большы страх. Страх перад чымсьці. Нешта стаяла за дзвярыма, і я гэта дакладна адчуваў. Нічога не змагло б мяне тады зрушыць з месца, і думка пра суседку, што прыйшла прасіць дапамогі, таксама. Але адзіны момант мяне непакоіў: калі гэта Смерць, чаму яна не пагрукала ў вакно?

## Электрычка

— Вось усё ім Савецкі Саюз не падабаецца! Учора ўнук глядзеў на інтэрнэтах нейкую перадачу пра рэпрэсіі, дык там, маўляў, у Савецкім Саюзе расстрэльвалі направа і налева. Ну бязглуздзіца ж, бязглуздзіца! — ледзь не захлынаючыся слінай, крычаў у твар свайму суразмоўцу стары мужчына, — Ты памятаеш, каб НКВД кагосьці з жыхароў расстрэльваў? Хіба што шпіёнаў з Захаду, аднак гэта лагічна, ці не так? Усё ім толькі ачарніць нашую краіну… Бо зайздросцяць, зайздросцяць! Я ўпэўнены, што той, хто робіць такія недарэчныя перадачы, мае сярод родных заходніх шпіёнаў. А ведаеш, што я скажу? Хай і расстрэльвалі, значыць — было за што!

Суразмоўца ў адказ моўчкі кіўнуў.

Ціха, нікуды не спяшаючыся, ружаватым золкам ехала ўперад гарадская электрычка. Сонейка ледзь-ледзь устала з-за гарызонту, і першыя прамяні асвятлілі вагон, у якім, здаецца, было шмат людзей, аднак жыццё не адчувалася. Толькі адзіны мужчына гаманіў на ўвесь вагон пра тое, як добра было ў СССР, што ён атрымліваў стабільны заробак, заўсёды мог сцягнуць, калі трэба, бутэльку гарэлкі з завода, ды і прайшоў ён Афганскую вайну і атрымаў медаль Героя Савецкага Саюза, аднак пасажыры не звярталі на яго ўвагі, ці то не маючы жадання спрачацца, ці то баючыся папрасіць гаманіць цішэй, ці то праз агульную абыякавасць. У любым выпадку, мужчына сам змоўк праз некалькі хвілін.

Электрычка спынілася на станцыі, што ляжала каля вёскі; у вагон зайшлі некалькі бабулек з валізкамі, якія доўгі час не маглі знайсці для сябе і свайго багажа прытулак. Урэшце, знайшлі месца, трохі паенчылі аб сваёй цяжкай долі і паснулі. У вагоне запахла курыным памётам.

У такім паўдрымотным стане пасажыры праехалі яшчэ некалькі дзясяткаў кіламетраў да наступнай станцыі, што ляжала ля чарговай вёскі. Цягнік спыніўся, і ў вагон увайшоў адзін чалавек, што было не дзіўна, бо час быў занадта ранні. Ён пракрочыў ад пачатку да канца вагона, шукаючы месца, некалькі хвілінаў стаяў нерухома, быццам разглядаючы пасажыраў, і ў выніку сеў каля вакна на пустую лаву.

Цягнік рушыў далей, супакойваючы рытмічным пагрукваннем колаў, як бы ўводзячы ў транс усіх. І тут усеагульны спакой перарваў гучны шум і голас: «Вас приветствует радио "Русский мир"», — мужчына, што ўвайшоў на апошнім прыпынку, уключыў радыё на тэлефоне і, трымаючы яго ў руцэ, пустым позіркам утаропіўся ў краявіды, што прабягалі за вакном. Усе раптам схамянуліся ад ранішняга трансу, пачалі шукаць вачыма крыніцу шуму і, знайшоўшы мужчыну з тэлефонам ля вакна, пачалі паміж сабой абурана гаманіць. З агульнага тлуму выразна было чуваць голас таго мужчыны, што крыху раней расказваў пра жыццё ў Савецкім Саюзе: «Людцы, слухайце, што ж гэта робіцца? Няўжо ніхто не спыніць гэтага хама, ён жа нам перашкаджае!»

У адказ пачуліся незразумелыя словы абурэння: зноўку заенчылі бабулькі, некалькі мужыкоў басавіта падтрымлівалі агульную незадаволенасць, і ўсё гэта ўтварала страшэнную какафонію з крыкаў, віскаў, енкаў, пракуранага басу і, канешне, з эфіру радыё «Русский мир». Чым грамчэй станавілася сумятня, тым больш разхваляванымі рабіліся людзі. Тыя, хто ціха выплюхваў сваё абурэнне пад нос, перайшлі на гучнае абмеркаванне несправядлівасці, шукаючы выйсця з сітуацыі, але не падымаючы сваёй дупы з месца.

— Людзі, людзі, трэба ж сказаць яму, каб зрабіў цішэй свой прайгравальнік! — заенчыла нейкая бабулька.

— Дык падыміся і пайдзі скажы! — ледзь не на віск пераходзячы, крычала суседняя жанчына. — Знайшлася разумніца, толькі іншымі і можа камандаваць.

— Я інвалід, у мяне нага хворая, я не магу, — апраўдвалася бабулька, — хай вунь лепей той мужчына папросіць, ён выглядае сур'ёзна, яго дакладна паслухаецца.

— Не, не, не, гражданачка, — адказваў той мужчына, пра якога казала бабулька, — а можа, у яго нож у кішэні? Я падыду, а ён мяне пырне. Не, я рызыкаваць не хачу. Ваапшчэ, не такое і дрэннае гэтае радыё.

— Ды што ж вы, людцы, усе такія баязліўцы аказаліся, — кпіў мужчына, што расказваў пра жыццё ў Савецкім Саюзе, — вось у савецкі час…

— Заткні зяпу, савецкі час, — абарваў яго мужчына з моцным басам, — што ты ўсё заладзіў? Усім насраць! Ідзі лепей, раз такі герой быў, разбярыся з парушальнікам сам, а не кукарэкай з седала!

— Ды я, ды я цябе зараз!.. — задыхаючыся ад гневу, прахрыпеў той у адказ.

— Што?! Што ты? Давай, падыходзь, нападай, — крычаў мужчына з басам, выпадаючы целам наперад. — Давай, нападай!

Мужчына, што расказваў пра жыццё ў Савецкім Саюзе, трохі прыўзняўся з месца — і атрымаў моцны ўдар кулаком у твар. Паваліўся на бабулек, што сядзелі побач; тыя заскуголілі: «Ратуйце! Забіваюць!».

Узняўся вэрхал, ніхто ўжо не звяртаў увагі на мужчыну з радыё, усіх зацікавіла бойка двух іншых: адныя лезлі іх разнімаць, другія — хацелі ўзяць удзел у бойцы, трэція — лямантавалі, назіраючы за ўсім гэтым. Здаецца, кагосьці нават забілі.

А мужчына, што сядзеў ля вакна, выключыў радыё і ўсміхнуўся.

## Цемра

Я ішоў ноччу па вуліцы. Слабое святло ліхтароў вырывала з цемры кавалкі тратуара. Навокал нікога не было. Насвістваючы сабе пад нос, утаропіўшыся ў дол, ішоў і штурхаў нагой каменьчык.

— Чаму ты думаеш, што менавіта ты павінен ёй дапамагчы? — пачуўся адкуль голас.

Я ўзняў галаву і азірнуўся. Нікога навокал, як і раней, не было. Трохі пастаяўшы на месцы, я рушыў далей.

— Не, сур'ёзна, чаму менавіта ты? Ты сапраўды думаеш, што можаш яшчэ нешта змяніць? — пачуўся зноў голас.

— Хто гэта? — не вытрымаў я. — Ты да мяне звяртаешся?

Я агледзеўся вельмі пільна, але зноў жа — нікога не было. Голас маўчаў.

— Я пытаю: ты да мяне звяртаешся? — спытаў я гучней. Мой голас дрыжэў.

І зноў у адказ — цішыня. Уздоўж майго хрыбетніка пабеглі дрыжыкі. Я баяўся рушыць з месца. Нехта быў у цемры і звяртаўся да мяне, аднак я яго не бачыў. Ад гэтага было асабліва страшна. Ён мог быць дзе заўгодна: у завулках між дамоў, за платамі; мог хавацца ў цені дрэў і адусюль мог на мяне выскачыць. Але чаму ён раптам замоўк? Спалохаўся?

Нават вецер маўчаў, больш не шапацеў лістотай, не ганяў смецце па дарозе. І цемра — яна была паўсюль. Яна пачала перамагаць у бойцы са святлом. Цяпер не ліхтары праразалі цемру яркімі слупамі святла, а цемра паглынала іх, усё бліжэй падступаючы да мяне. І раптам леваруч пачуўся шолах. Я прысеў на кукішкі, рыхтуючыся бегчы. Я быў гатовы бегчы з усёй моцы, якую б пачвару там ні ўбачыў бы.

— Вы-вы-выходзь, я цябе не баюся! — заікаючыся ад страху, крыкнуў я.

У цемры раптам белым полымем успыхнулі і пачалі набліжацца чыесьці вочы. Усе мае цягліцы напружыліся. Цёмная постаць выйшла на святло. Гэта быў сабака. Я адчуў сябе так, быццам скінуў цяжар з плячэй, уся напруга сышла разам з выдыхам палёгкі.

— Ох, ну і прымусіў ты мяне панервавацца, — ледзь не смеючыся, звярнуўся я да сабакі, — больш не палохай мяне так!

Той заматляў хвастом.

Да дома заставалася ісці яшчэ хвілінаў з пяць, таму я паскорыў крок. Уся трывога знікла, аднак засталося пытанне: а хто да мяне звяртаўся? У любым выпадку, гэты «нехта» застаўся за спінаю. Ці не? Ці ён рушыў далей за мною? Дагэтуль ідзе ў цемры, ці злева, ці справа, сочыць за маімі рухамі, маім дыханнем, маім страхам.

Я зноў агледзеўся навокал і зразумеў, што ўжо хвіліну іду ў поўнай цемры. Нехта выключыў ліхтары па ўсёй вуліцы. Як жа я гэта раней не заўважаў? Мяне зноў скаваў жах. Я сеў на зямлю, ахапіў калені рукамі, прыціснуў галаву да грудзей. Ён побач. Я адчуваю. Ён побач, а я — цалкам безабаронны. Была б гэта бойка твар у твар, я б, можа, і даў адпор, бо добра валодаў рознымі баявымі мастацтвамі. Аднак тут я не ведаю, адкуль чакаць удару. Нічога навокал не было бачна, нават абрысаў дамоў. Што казаць, калі я ледзь бачыў свае рукі. Нават неба было чорнае — ні месяца, ні зорак. Толькі цемра, апраметная цемра.

Я праседзеў на дарозе з заплюшчанымі вачыма каля дзесяці хвілін. Не дачакаўшыся ўдару, насмеліўся падняць галаву і паглядзець, што адбываецца навокал. Як і раней, паўсюль была цемра, аднак наперадзе я заўважыў святло на дарозе, што спадала з вакна. Здаецца, звычайнае святло з вакна, аднак для мяне яно было выспай ратавання. Я падскочыў і хутка пабег па дарозе да таго дома, дзе дагэтуль было святло. «Дзіўна, што людзі не спяць у такі позні час, — падумаў я, — хаця мне гэта на руку».

Дабегшы да светлавой плямы, я спыніўся, каб перадыхнуць і падлічыць, колькі засталося да майго дома. Здаецца, засталася яшчэ адна хвіліна пешшу, а калі пабягу, то буду дома праз трыццаць секунд. Трохі адпачыўшы, я ўжо збіраўся бегчы, як пачуў моцнае груканне. Яно даносілася з дома, у якім было запалена святло. Балазе фіранкі былі не да канца засунутыя, таму я бачыў, што адбываецца ўнутры. Спачатку я нікога не бачыў, як раптам у вакне прамільгнула жанчына. Яна відавочна ўпала на падлогу. Да яе падышоў мужчына, узяў за валасы і ўдарыў нечым у твар. Здаецца, гэта быў прас. Жанчына закрычала, але мужчына запіхнуў ёй нейкую тканіну ў рот, так, што яна больш не магла ні крычаць, ні гаварыць.

Я не ведаў, што мне рабіць. Лічачы сябе чалавекам самавітым і выхаваным, я не мог глядзець на тое, як мужчына збівае жанчыну. Варта ўзгадаць, што я добра валодаў баявымі мастацтвамі, таму такі мужчына, як той (ён у вакне падаваўся вельмі лядашчым), для мяне не стане вялікай перашкодай.

«Але што, калі ў яго ёсць зброя? А што, калі, — разважаў я, — гэтая жанчына сама вінаватая? Неяк правінілася перад мужчынам, вось ён яе і карае за гэта. Можа, занадта сувора, аднак тая запомніць на ўсё жыццё».

Сапраўды, я проста іду дахаты, да таго ж існуе небяспека, што той «нехта» ў цемры дагэтуль дзесьці побач. Чаму менавіта я павінен дапамагчы гэтай жанчыне? Што зменіцца, калі я ўварвуся ў іх дом? Нічога.

Не зважаючы на цемру, я павольна пабег дамоў. Я нічога не мог змяніць.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Чатыры аповеды

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

## Пінжак

### 1

Ён зноўку прыйшоў. Апошнім часам ён пачаў насіць толькі дарагія, нібыта сшытыя адмаслова на яго касцюмы, з аскамітнымі сурвэткамі ў нагруднай кішэні, залатымі запінкамі; лакіраваныя чаравікі, якія аж пераліваюцца, калі ён ідзе.

Для яго гэта было ў навінку: літаральна тыдзень таму ён быў звычайным дзецюком, які з афіцыйнай вопраткі меў толькі спартыўкі ў клетачку і каполу. Але сёння… Сёння яго было не адрозніць ад тых мяхоў з грашыма, што апранаюцца ў буціках, ездзяць на лімузінах, а з ежы ў іх фуа-гра ды мармуровая ялавічына з «мішленаўскіх» рэстаранаў. Але варта заўважыць, што параўнанне з мяшкамі ім не вельмі падыходзіла, бо па форме яны больш нагадвалі прастакутнік, чым шар, таму карэктней будзе іх назваць «тубусы з грашыма», чым «мяхі». Яны прымалі яго за свайго, ды і ён паспеў з імі пабратацца, але я ведаў, я памятаў сапраўднага яго, не падробнага.

«тубусы» каля яго гэтага не заўважылі. Хаця, магчыма, яны былі так занятыя гучнай гутаркай пра акцыі кампаній і парфуму, што зусім не надалі гэтаму ўвагі.

Я больш не мог стаяць убаку і вырашыў падысці да іх. Набліжаючыся, я пачуў урыўкі іхняй размовы: «Вы ведаеце, панове, нядаўна японскія вучоныя распрацавалі лекі ад старэння! Кажуць, што яны ўдвая запавольваюць працэсы разбурэння клетак арганізму!» — «Але смерць у любым выпадку прыйдзе, рана ці позна. Ці ёсць сэнс яе адцягваць?» — «Канешне!» — «Канешне!» — «Канешне!»

— Кане-е-ешне! — уварваўся ў іхнюю размову я.

«Тубусы» яўна збянтэжыліся, таму пачалі павольна адыходзіць, пакідаючы мяне сам-насам з сябрам.

— Што ты, халера, робіш?! — абурыўся мой сябра, — Бачыш, ты іх распалохаў!

— Гэта што ТЫ, халера, робіш? Прыйшоў на маю выставу і нават не павітаўся? Няўжо кампанія гэтых багацеяў табе больш мілая, чым мая? Думаеш, апрануўся ў дарагі пінжак — і адразу займеў такіх «сяброў»? — я паказаў пальцамі двукоссе.

— Не «такіх» сяброў, — перадражніў ён мяне, — а нармальных. Прычым гэта

— Не! — рэзка адказаў я.

— Гэта чаму ж?

Схіліўшыся да яго вуха, я прашаптаў: «Ведаеш, людзі нараджаюцца са схільнасцю да нашэння пінжакоў. Камусьці яны стоадсоткава пасуюць, а хтосьці, як іх не апранай, будзе выглядаць смешна».

Я зайздросціў. Я зайздросціў усяму, што мой сябра меў. Ад ягонага зграбнага, рэльефнага цела, нібыта ён сышоў з карцін Мікелянджэла, да розуму і сацыяльнага статусу. Здаецца, так і раней было, і я таксама гэтаму зайздросціў, аднак паважны статус… гэтага раней я не заўважаў. Калі гэта з’явілася? Здаецца, каля тыдня таму. Няўжо гэта ўсё пінжак? А можа і мне… А можа і мне яго варта набыць?

З сябрам мы больш не бачыліся. Ён з’ехаў працаваць у сталіцу, бо адзін з тых «тубусаў» сапраўды ўладкаваў яго да сябе на працу. А маё становішча з кожным днём пагаршалася. Ніхто не хацеў купляць мае карціны, грошай ледзь хапала на тое, каб аплаціць кватэру і набыць ежу. Мне давялося навучыцца граць на гітары, каб хоць трошкі зарабляць на вуліцах і ў пераходах, аднак такога заробку відавочна не хапала на жыццё. Акрамя таго, набліжалася зіма, станавілася ўсё халадней, і рукі падчас ігры замярзалі за дзесяць-пятнаццаць хвілін.


Фота Сяргея Плыткевіча

Я памятаў, як мы з сябрам лазілі па закіданках у пошуку прыгодаў, як уцякалі праз платы ад аховы, як сядзелі ля вогнішча ў лесе, плавалі на лодках; я памятаў, як смажылі ў ягоным двары мяса, як хадзілі разам на рэчку, як гулялі ў кампутарныя гульні, глядзелі разам фільмы. Я памятаў усе нашыя спрэчкі, усе нашыя прымірэнні і абдымкі. А ці памятаў ён? Можа, і памятаў, але выгляду не падаваў.

Прыпёршыся да сцяны, я стаяў і назіраў, як ён збірае вакол сябе ўсё больш і больш мужчын у такіх жа дарагіх касцюмах, як і ў яго. Здаецца, імпрэза, на якую ўсе прыйшлі, была прысвечана мне, бо гэта маю выставу сёння адкрылі, аднак усю ўвагу прыцягвала толькі ягоная постаць.

Цяжка не прызнацца, што мне было па-сапраўднаму крыўдна. Аднак мяне вельмі забаўляла тое, што я заўважыў. Нічога не выдавала ў ім звычайнага хлопца, за выключэннем аднаго: рук у кішэнях. Ён трымаў рукі глыбока ў кішэнях, хістаючыся то ўперад, то назад. Выглядала, быццам на вулічнага хлопца, які нашкодзіў, нацягнулі абалонку трыццацігадовага бізнэсмэна і загадалі граць ролю сур’ёзнага чалавека. Дзіўна, што вельмі цікавыя людзі, з вялікім жыццёвым вопытам. І некаторыя з іх ужо паспелі мне прапанаваць месца працы ў сваіх фірмах.

— Ты хоць імёны сваіх сяброў ведаеш?

— Анягож!

— І як іх завуць?

Павісла няёмкая цішыня. Сябра напружана намагаўся прыгадаць хоць адно імя.

— Той, ад якога пахла Escentric Molecules, здаецца, Аль… А… Аляксей? Аляксандр? Ай, не важна, якая розніца?

— Ды якія ж гэта сябры, калі ты нават іхніх імёнаў не ведаеш?

— Багатыя.

З гэтым я ніяк не мог паспрачацца: ён знайшоў сабе знаёмых, з якімі прымаўка «не май сто рублёў, а май сто сяброў» набывае новы сэнс, а дакладней — працяг, «бо кожны з тых сяброў мае тысячы рублёў».

Мы зноўку замаўчалі. Здаецца, я хацеў прывітацца з сябрам, але перастаў адчуваць шчырасць паміж намі, таму нічога не казаў. Раптам, абарваўшы цішыню, ён сказаў: «Ведаеш, табе варта было б набыць сабе пінжак і насіць яго, бо ў гэтай вопратцы, — ён прабег па мне гідлівым позіркам, — ты выглядаеш зусім несур’ёзна».

Аднойчы, калі я сядзеў у пераходзе і дайграваў апошнюю песню, да мяне падышоў мужчына ў самавітым касцюме і паклаў у футарал ад гітары сто рублёў. Я быў вельмі здзіўлены і ўсцешаны такой шчодрасцю ад мужчыны ў пінжаку; тады я і ўзгадаў параду сябра.

Скончыўшы граць, я пабег дамоў па грошы. Узяўшы запасы на чорны дзень і сто рублёў, што даў мужчына ў пераходзе, я скіраваўся ў буцік. Там на ўсе свае грошы набыў цёмна-сіні касцюм ад Boss і белую кашулю ад Mango Man, якія ідэальна пасуюць маёй зграбнай, худой постаці. Падзякаваўшы касіру, я радасна выбег на вуліцу і ледзь не збіў з ног паненку, якая кудысьці спяшалася.

— Прабачце, прабачце, калі ласка, — разгублена заенчыла яна, — я зараз усё выпраўлю.

Перада мной ніколі так не выбачаліся, так шчыра гэта не рабілі, прычым за тое, за што не варта так эмацыйна выбачацца.

— Ды што вы, гэта дробязь! Падумаеш, ілбамі сутыкнуліся, — усміхнуўся я.

— Дык вы ж паглядзіце, — яна паказала пальцам на маю кашулю, — тут мае вусны!

І сапраўды, на белай кашулі палымнеў адбітак чырвонай памады.

— Халера, халера, і што ж рабіць? А-ах… Ведаю! Я дам пану візітку пральні, у якой працуе мой знаёмы. Я яму патэлефаную і скажу, каб ён вымыў кашулю пана бясплатна, за мой кошт, — яна дастала з сумкі картку і сунула мне. — Прабачце, але вымушана спяшацца, у мяне прызначана спатканне. Да пабачэння, і прабачце яшчэ раз! — паненка самармліва ўсміхнулася і пабегла.

Здзіўлены тым, як шмат адбылося за гэтую хвіліну, я стаяў нерухома, трымаючы візітку ў руцэ.

Пайшоў снег.

Я паспяшаўся дахаты.

### 2

З моманту, як я набыў касцюм, прамінула каля месяца. Не, я не памёр у галечы і не, не пераехаў жыць пад мост у кардонную скрыню. Скажу больш: я цалкам аплаціў усе рахункі, што былі не закрытыя, а таксама набыў сабе пару прыгожых лакаваных чаравікаў ад BOSS. Як так сталася?

Калі я прыйшоў у пральню, я сустрэў там уладальніка. Гэта быў стары мужчына гадоў шасцідзесяці, са стыльнай фрызурай, у модных нагавіцах, кашулі і вязанай камізэльцы. Яму вельмі спадабаўся мой касцюм, і ён прапанаваў памыць яго таксама, і таксама бясплатна. І хоць уся мая вопратка была нядаўна набытая і не патрабавала чысткі, адмовіцца я не мог, асабліва калі прапануюць бясплатна.

Калі я збіраўся даць яму пінжак, уладальнік папрасіў мяне праверыць кішэні, на што я адказаў, што там дакладна нічога няма.

— Нічога няма? — здзівіўся той. — Як гэта? Каб такі файны пінжак — і нічога не было?

— А што там павінна быць? — запытаўся я.

— Некалькі сотняў даляраў, вядома! — здзіўленым голасам адказаў ён.

— Але ж у мяне няма такіх грошай! Ды і калі б яны былі, то і ляжалі б дзесьці схаваныя пад ложкам ці ў кнігах.

— Але як так сталася, што ў мужчыны ў такім самавітым пінжаку няма грошай? — стары ўзняў густыя бровы.

Тады я яму ўсё і расказаў. Што грошай у мяне ніколі шмат не было, а цяпер іх увогуле няма. Што ўсе мае грошы — гэта касцюм, які ён трымае ў руках, мая маёмасць.

Я чакаў, што ўладальнік пральні зарагоча мне ў твар, ляпаючы мяне па плячах, аднак ён сур’ёзна паглядзеў мне ў вочы, а потым усміхнуўся:

— У мяне знаёмы працуе ў адной фірме, і ён кажа, што там цяпер вялікая нястача людзей на месца мэнэджараў. Калі хочаш, я магу яму пра цябе расказаць. Трохі прыманю, трохі перабольшу, ну і цябе возьмуць.

Узялі. Я пачаў атрымліваць сапраўдны, стабільны заробак, а не спадзявацца на лёс, што нехта злітуецца і набудзе мае малюначкі. Я пачаў дазваляць сабе больш, чым раней: наведаў дарагі рэстаран, дзе ўпершыню пакаштаваў фуа-гра. Ах, які гэта быў смак! Яно быццам раставала ў роце! Проста казка! Таксама я набыў сабе залатыя запінкі, якія цудоўна пасуюць да майго касцюма.

А нядаўна я хадзіў на прэзентацыю першай кнігі майго старога знаёмага. Там мяне з цікавасцю сустрэла мясцовая эліта; і хоць я быў звычайным мэнэджарам, выглядаў як дырэктар банка. Напрыканцы імпрэзы яны ўсе мне далі свае візітоўкі — на той выпадак, калі я буду шукаць новую працу ці проста буду мець патрэбу ў добрай кампаніі.

Маё жыццё наладзілася, пра такое я нават не мог марыць. Жыццё — казка…

«Але каму я павінен быць удзячны за ўсё гэта? Хіба што майму сябру, які параіў мне насіць пінжак. Трэба патэлефанаваць яму, падзякаваць».

Шукаючы ягоны кантакт у тэлефоне, я злавіў сябе на думцы: «А як звалі майго сябра? Хіба што ўжо не ўспомню».

# Непераможны люты



Паліна ДВАРАНСКАЯ

### Няхай квітнеюць сады… і ты

*Я станцаваў бы з табою*
*апошні школьны вальс,*
*мы разам сустрэлі б світанак,*
*знішчылі б усе перашкоды*
*для шчасця…*
*Калі б не гарматы ў чатыры гадзіны.*

*Не плач,*
*мне лягчэй бачыць*
*кроў на сваіх руках,*
*чым хоць кроплю смутку*
*на тваім спагадлівым твары.*

*Бог пакарае тых,*
*хто перашкодзіў нашаму шчасцю*
*ў чатыры гадзіны…*
*Усё будзе добра,*
*толькі не сумуй,*
*мая касмічная дзяўчынка,*
*якая любіць звычайную вясну.*

*Я станцаваў бы з табою*
*апошні школьны вальс,*
*мы разам сустрэлі б світанак.*
*Я пабудаваў бы дом для нас,*
*пасадзіў бы ў садзе вішні.*
*Шмат чаго маглі зрабіць мы,*
*калі б не гарматы ў чатыры гадзіны…*

### Балада Алаізы ПАШКЕВІЧ (Цёткі)

*Прагне душа справядлівасці й ведаў,*
*як зялёны парастак — сонца.*
*Чалавеку свабода і вера патрэбны,*
*як у спёку — вады да донца.*

*Пад яе капялюшам светлыя думкі,*
*і гараць захапленнем вочы,*
*бо жадае сэрцы няволю і смутак,*
*узлунаць над святочнай плошчай.*

*І каб скрыпка залівістая спявала*
*ў садзе руж, на ўзаранай зямлі,*
*не краналі людзей каб жуда і навала —*
*і хавалі спакой валуны.*

*Смела крочым, шукаем і маем веру,*
*нам анёлкі пяюць з нябёс.*
*Хай нас Божа адорыць шчодраю мерай, —*
*каб квітнеў васількова лёс!*

***

*Я стаю пад дажджом*
*з табой.*
*Кроплі, такія цёплыя і прыемныя,*
*сцякаюць па шчацэ.*
*Якое ўсё-ткі шчасце —*
*вочы, мокрыя не ад слёз.*

*Я стаю пад дажджом:*
*дзве постаці*
*ідуць пад парасонам.*
*Яны шчаслівыя,*
*толькі каб не заўважылі мяне*
*ў апёках ад дажджу…*

### Несмяротная душа беларуса

*Няхай усё згіне, дык душа ж не гліна?*

***Францішак Багушэвіч***

*Душа беларуса, ты саткана з дабрыні,*
*якую ніхто і ніколі не знішчыць!*



Фота С. Прудскага

*Як кроплі зор — блішчаць твае агні*
*нават на схаваным папялішчы.*

*У душы нараджаюцца песні,*
*вершы — і плывуць па венах,*
*каб потым заспяваць іх напрадвесні*
*і пісаць… на чорных сценах.*

*Топчуць мову, паляць кнігі,*
*быццам стары непатрэбны кажух,*
*на нас, на тутэйшых, завуць ліха,*
*але… ніколі не знішчыць душу.*

### Трыялет

*Я паглядзела ў мінулага люстэрка,*
*убачыла столькі прыемнага:*
*дзяцінства, лялькі, прыгоды, цукеркі…*
*Я паглядзела ў мінулага люстэрка.*
*Такая драбяза — разбітая талерка,*
*а ў памяці так шмат адметнага.*
*Я паглядзела ў мінулага люстэрка,*
*убачыла столькі прыемнага…*

### Рандэль

*Я п'ю мінулае, хоць і яно — атрута,*
*няспешнымі, балючымі глыткамі,*
*бязмежна мару я пакінуць за плячамі*
*ўсе крыўды ў цвілі, слёзы і пакуты,*

*надзеі мёртвыя і словы не пачутыя,*
*каханне, што ляціць вакол шматкамі…*
*Я п'ю мінулае, хоць і яно — атрута,*
*няспешнымі, балючымі глыткамі.*

*Прасякнутая горка-церпкім смуткам,*
*хаджу бясконца па мінуламу кругамі.*
*Магчыма, знікне з неадступнымі гадамі*
*ў душы маёй непераможны люты…*
*Я п'ю мінулае, хоць і яно — атрута.*

***

*Я люблю іх —*
*свае найглыбейшыя раны.*
*Сапраўды, я вар'ят, і яшчэ закаханы,*
*але жыццё — мой неацэнны скарб,*
*колькі б не было ў ім чорных*
*адценняў і фарб…*

*Я люблю іх —*
*свае найвялікшыя раны,*
*хоць той, хто іх пакінуў,*
*ужо не будзе пакараны,*
*але я магу зрабіць горыч*
*салодкай ватай,*
*і стужкі з драпін, якія былі*
*даўжэй за экватар.*

*Я люблю іх —*
*свае загоеныя раны,*
*бо іх цяпер няма,*
*а ёсць — каралы,*
*што ўпрыгожваюць душы*
*бязмежны акіян —*
*і там няма глыбокіх*
*і вялікіх ран.*

*Я люблю іх —*
*свае незагойныя раны!*
*Я ўдзячная ўсім, хто іх нанёс,*
*бо каб не вы —*
*не мела б сёння я*
*такі шчаслівы лёс!*

# Мяжа



Вадзім БАРЫСЕВІЧ

Мяжа заўсёды з табой. Асабліва калі ты маеш берасцейскую прапіску і шэнген у пашпарце. І ты можаш не жыць па месцы рэгістрацыі, як і на гады забыцца на зніжкі ў «Рывалі», але мяжа з табой назаўсёды. Яна чапляецца за цябе размовамі ў кавярнях пра кошты на візы. Абдымае навінамі пра чарговае закрыццё памежных пунктаў. У рэшце рэшт яна проста прэвентыўна існуе налепкай у пашпарце. Так, на ўсялякі выпадак, хай будзе. А пасля не паспееш і вокам павесці, як ужо стаіш і мармычаш польскаму памежніку пра мэту паездкі. Каб ты сам ведаў гэтую мэту…

Мяжа — дзіўны і разнастайны свет, у якім ужываюцца людзі розных палітычных поглядаў і жыццёвых мэтаў. Аб'яднальным ланцужком становіцца нянавісць да шматгадзінных чэргаў і абвінавачванне польскага боку ў здзеках з простых беларусаў. І ці толькі з беларусаў? Глядзіш у вочы кіроўцы-паляка аўтобуса «Брэст-Люблін» і чытаеш звычайную чалавечую стомленасць. З гэткай жа стомленасцю ў голасе ён просіць у цябе ўзяць бутэльку гарэлкі, бо кіроўцам нельга нічога правозіць. І ты бярэш, таму што ў мінулы раз ён дапамог табе, запісаўшы нумар тэлефона, каб ты змог збегаць у горад і яшчэ раз развітацца з любімым чалавекам. Да шлагбаўма перад табой пятнаццаць аўтобусаў, значыць, гадзін пяць дакладна ёсць у запасе.

Пакуль стаіш, пытаешся ў людзей, чаму яно так? Чаму паездка ў 160 кіламетраў ператвараецца ў 16-гадзіннае рандэву са снэкамі, Duty Free і цудоўным відам на Буг з моста, але і ён ужо прыеўся за пяць гадзін стаяння на месцы. У кожнага ў адказ свая аналітыка, але ўсе сыходзяцца на наўмысным «зацягванні працэсаў». Ты спачатку не верыш, думаеш, бздура, а пасля заязджаеш у двор і бачыш пустэчу, ніводнага аўтобуса — і ўсё разумееш.

Разумееш і на адваротным шляху, калі праходжанне беларускай мяжы ператвараецца ў ліпкія хвіліны чакання. «Все хорошо, подождите, вас сейчас проверят». І ты чакаеш, гледзячы, як праходзяць кантроль пасажыры твайго аўтобуса, а пасля яшчэ трох іншых. Чакаеш, каб пасля вывернуць вантробы заплечніка перад мытнікам, а пасля прайсці ў асобнае памяшканне і пачуць «В отношении вас выписано постановление о проведении полного досмотра».

Яшчэ хвіліна, і ты здымаеш з сябе ўсё, каб прысесці голым два разы, а пасля апрануцца, падпісаць паперкі і забегчы ў свой аўтобус, дзе чакаюць толькі цябе. З-за цябе аўтобус прастаяў дзве гадзіны, каб пасля ты выйшаў праз пяць хвілін на «Табакерцы»…

Стрэс і стомленасць мяжы хутка здымаецца з першымі відамі Мухаўца і подыхамі насычанага берасцейскага паветра. Там (тут) у замежжы паветра мае дысталяваны пах: колькі не ўдыхай — усё дарма. Гэта не сантыменты і не першыя сімптомы каранавірусу, а нейкі недаказальны факт. Мо пахі паветра становяцца даступнымі, толькі калі ты здаў тэст на веданне польскай мовы не ніжэй за ўзровень B1. Ці праз праходжанне пакутлівых паходаў ва ўжонд. Вось вам дэцызія і пахі першых восеньскіх дзён.

Пахі вяртаюцца на мяжы, і часам зусім непрыемныя. Берасцейскія ачышчальныя — маркер трывожнай сучаснасці. Але і іх рады пачуць праз месяцы стэрыльнага ўдыхання чужазем'я. Удыхаеш гэтыя пахі, паралельна тлумачачы мытніку, што няма нічога для дэкларавання. А можа і ёсць, якая розніца, калі праз пару гадзінаў для цябе будзе зноў усё зразумелае, роднае і ўцямнае. З доўгімі сапраўднымі размовамі, а не гэтым адсечаным і сарамлівым «вшыстку пожондку». Смол-ток, які мы заслужылі.

Мяжа з табой назаўсёды, асабліва калі ты напалову тут, напалову там. Немагчыма зрабіць акрэслены выбар, бо падсвядома выбар даўно ўжо зроблены, і ты ведаеш, дзе хочаш быць і жыць. Проста цяпер вось так.

Мяжа як адна з кропак апоры і стабільнасці. Вузкая фортка са шматгадзіннымі чэргамі. І адзіны сродак сувязі з роднымі і роднай зямлёй.




ФотаВіктара Талочкі

# Анатомія нянавісці



Анатоль САНАЦЕНКА

Яго нянавісць да мяне здзіўляла.

Перш за ўсё — сваёй неабгрунтаванасцю. Падставаў для яе я не даваў — гэта дакладна. Тады — чаму? Чаму не дробнае бытавое раздражненне, якое лёгка можна было б спісаць на штонебудзь нязначнае, а менавіта — паўнакроўнае, усёабдымнае пачуццё. Дзе яго вытокі? Якія матывы? Калі пачалося гэтае вар'яцтва?

На памяць прыходзіць толькі млявае сяброўства, познія вячоркі ў рэдакцыі і ў яго дома, выраз Танінага твару, згадкі пра якую паранейшаму, з бязлітаснай пяшчотай, кранаюць за сэрца... Яна была аднолькава далёкая ад нас абодвух, маё сіратлівае пачуццё да яе так і засталося неўсыноўленым. Таму яна таксама не магла быць прычынай яго нянавісці.

Але скрозь успамін пра яе вернемся ў тыя часы — самы надзейны, самы хуткі шлях у мінулае. Калі ласка, адзін білет...

— Паглядзі на гэта. Ён невыносны, ці не праўда? — культурненька душачы смех, Таня падсоўвала мне яго малюнкішаржы, даволі непрыстойныя, на добра знаёмых нам людзей. — А гэты, як ён табе? — нявінна пыталася яна, высоўваючы на першы план самы нахабны яго накід — відавочнае перайманне яшчэ нераскаянага Бердслею.

Мяне некалькі шакавала гэтая яе нечаканая дзёрзкасць, гэты альпійскі пераход з крайняй выхаванасці ў нізіну непрыстойнасці, што, аднак, не пазбаўляла яе адвечнай узнёсласці, не аслабляла моцы яе жаночых чараў. Відаць, ёй падабалася бянтэжыць мяне, — мяне, які ўжо развітаўся з юнацкім рамантызмам, але захаваў у недатыкальнасці сваю прыродную рафінаванасць. Я, ненаўмысна грэбліва, двума пальцамі, браў яго малюнкі за краёчак і з нявызначанай (як мне бачыцца) усмешкай адкладваў іх.

Яна вы́клікала мяне. Не, не на мастацтвазнаўчы дыспут, а на эмацыйную дуэль, бітву, так бы мовіць, гармонаў. І, разумеючы гэта, я заставаўся спакойны і непрыступны, як Напалеон напярэдадні Ватэрло.

Таня. Мілая Таня. Калі б ты ведала, якое месца займаеш у маім сэрцы, у маім жыцці, то, несумненна, кінула б усе свае размовы і занялася б добраўпарадкаваннем нашых адносін. Але ты, вечна нацэленая на іншыя берагі, дакладней, — на іншы бераг, прыкаваная табой жа выраблены ланцугом да мінулага, шлях якому ў будучыню перагароджаны мігатлівай рэчаіснасцю, ты жыла дарагім табе самападманам, засцерагаючы яго ад дзённага асвятлення.

Доўгі час, як ты і хацела, я карміў цябе ўласнаручна выгадаванымі ілюзіямі. Калі ж мая ілюзорная плантацыя была спустошана нечаканым парывам лёсу, і я страціў магчымасць дарыць табе іх, — мы перасталі разумець адзін аднаго. Я хацеў сысці паангельску, але, з бясконца чароўнай грацыяй, ты дагнала мяне на лесвічнай пляцоўцы. У тваіх вачах былі неўразуменне і спалох. «Бывай. Бывай. Так будзе лепш для нас», — у думках кажу я табе. Падымаю каўнер і зябка іду ў шэрыя будні, дзе цябе ўжо няма...

Лёгка, як паплавок, усплывае ў памяці наша знаёмства з ім. Апынуўшыся ў чарговы раз (усё дзеля свабоды!) у статусе вольнага журналістанайміта, я ў прыемны красавіцкі дзень наведаў рэдакцыю адной з мясцовых газет, дзе мяне ведалі і, здаецца, паважалі. Ён быў там — маўклівы, пануры хлопец, з арыйскімі валасамі да плячэй, які меў гопніцкую звычку паліць на кукішках.

Зза вострага пяра і кульгавасці ў рэдакцыі пра яго не без іроніі, за вочы, казалі: «Наш Авадзень». («Авадзень» распавядаў усім, што ваяваў у замежным легіёне, удзельнічаў у гераічных бітвах, быў паранены. Насамрэч ашуканы муж не ў час вярнуўся дадому, давялося скакаць з гаўбца. Няўдала.)

З першых жа хвілін знаёмства ён запатрабаваў справаздачы пра мае ўражанні ад яго матэрыялаў, нядаўна надрукаваных у «Губернскіх навінах». Я іх, здаецца, не чытаў ці чытаў няўважліва, і нічым не мог быць карысным для яго жабінага самалюбства. «Добра, потым раскажаш», — літасціва папярэдзіў «Авадзень» і экспрэсіўна перакінуўся да іншай тэмы.

Іншай тэмай была зацяжная хвароба нашага агульнага знаёмага — журналіста з ласкі божай, які пакутаваў залішнім сяброўствам са спадаром Бахусам. Хтонебудзь з нас (магчыма, я) прапанаваў наведаць яго, патаварыску падтрымаць, дапамагчы, калі трэба...

Уладзіміра Іванавіча — так звалі нашага прыяцеля — мы сустрэлі яшчэ на подступах да яго жылля. У кампаніі Бахуса і Марфея ён велічна ляжаў на паркавай лаўцы, і да нашага прыходу над ім паспеў ужо схіліцца адзін з мясцовых анёлаў-ахоўнікаў — міліцыянт. На шчасце, нашы пасведчанні змаглі зрабіць на яго патрэбнае ўражанне, і пасля некаторых роздумаў Уладзімір Іванавіч быў перададзены нам на парукі. Мы даставілі нашага таленавітага сябра ў яго радавы маёнтак і асабіста пракантралявалі яго адбыццё ў краіну гасціннага Марфея.

Залатыя дзянькі! Усе яшчэ сябруюць адно з адным, і так далёка яшчэ да нянавісці, якая затым вельмі змяніла нас у ласкавых люстэрках будучых часоў. Калі мы далучылі Уладзіміра Іванавіча да нашай, незразумелай яму, рэальнасці, ён запрасіў мяне да сябе — паласавацца песнямі яго рок-н-рольнага куміра, да якога, зрэшты, і я быў неабыякавы. Паслухалі. Папілі гарбаты. Пагаварылі. Мой арыйскі прыяцель расчуліўся настолькі, што стаў запрашаць у свае загарадныя ўладанні.



Малюнак globallance.by

«Дзякую, барон, я вымушаны сысці. Заўтра ў мяне будзе цяжкая бітва на беласнежнай раўніне пісчай паперы. Іншым разам, іншым разам».

Іншага разу не было. Нашае прыяцельскае знаёмства ў сяброўства так і не перарасло. Мяне бянтэжыла яго гіпербалічная эмацыйнасць. Яго (відаць) — мая ўраўнаважанасць і снабізм. Напэўна, гэта той выпадак, калі супрацьлегласці не сыходзяцца. Зрэшты, у тыя часы мы з ім далёка і не разыходзіліся. Не далей адлегласці, якую патрабавалася пераадолець, каб патрапіць з «Вячэрніх навінаў», дзе я працаваў цяпер, у «Губернскія навіны», дзе працаваў цяпер ён. А пасля аб'яднання гэтых выданняў у адзін выдавецкі дом мы нават паспелі папрацаваць разам. І што вы думаеце? Ніякіх сігналаў, ніякіх прарочых сноў ці сімвалічных падзей!

Неўзабаве я сышоў з «Вячэрніх навінаў». Сумна было назіраць, як спадары журналісты ва ўгоду губернатарскаму густу добраахвотна абмяжоўваюць сябе ў правах, дадзеных Богам і парламентам. Размовы з рэдактарам, як я і меркаваў, ні да чаго не прывялі, — мне прапанавалі баяцца ўласнага ценю, не чапаць «небяспечных» тэм і г.д. і да т.п. Але замест гэтага я надумаў за лепшае зноў падацца на вольны хлеб. І праз некаторы час выявіў сябе ў якасці спецкара цэнтральнай газеты, дзе свабода слова шанавалася.

Божа мой! Які я быў шчаслівы! Стаўшы паўнапраўным уладальнікам бязмежных угоддзяў часу і прасторы, якія распасціраліся цяпер па абодва бакі майго асабістага быцця, я мог крэдытаваць сябе імі бясконца. Выдатная, райская пара! Словам, спыніся, імгненне. І яно спынілася. Больш за тое — нават пайшло назад, калі мой бедны рамантычны народ прагаласаваў на выбарах за аднаго з тых прайдзісветаў, што ў сне і наяве мараць быць яго, народа, душапрыказчыкамі. Выбраннік і прыдумаў неўзабаве машыну часу, з дапамогай якой наша краіна апынулася ў далёкім мінулым. З пагалоўным аднадумствам, з любоўю да правіцеля, з забыццём дэмакратычных каштоўнасцяў. З дагістарычнай атрыбутыкай дыктатуры, гэтак мне ненавіснай. Як аказалася, падчас выбарчай кампаніі наш «Авадзень» сваімі хвалебнымі публікацыямі ўсяляк садзейнічаў прыходу да ўлады ў губерні вялікага прайдзісвета. Неўзабаве пасля яго перамогі на выбарах «Авадня» прызначылі галоўным рэдактарам «Губернскіх навінаў». Праз год — загадчыкам аддзела інфармацыі ў абласной адміністрацыі, а яшчэ праз паўтары гады — намеснікам губернатара...

Час ад часу мы бачыліся з ім на афіцыйных мерапрыемствах. З «Аваднём» адбыліся ашаламляльныя перамены. Ён пастрыг свае арыйскія кучары і пагаліў бародку. Апрануўся як след, вядома. Набыў абавязковую для чыноўнікаў яго рангу ўкормленасць.

Раней, будучы яшчэ рэдактарам «Губернскіх навінаў», пры нашых сустрэчах ён выяўляў уласцівую яму гуллівую ветлівасць, у якой, як вадзяны знак, ужо праяўлялася яго смешная важнасць будучых часоў. Наступным актам стала шырокамаштабная траўля мяне ў масмедыя. Апублікаваўшы ў цэнтральнай прэсе шэраг крытычных артыкулаў аб некаторых выхадках мясцовых уладаў, — звычайныя, у агульным, для мяне матэрыялы, — я, на сваё здзіўленне, стаў героем шматлікіх «памфлетаў». Велізарныя, на газетную старонку, яны на працягу некалькіх дзён высокквалі — то там, то сям — на целе як «гасударавых», так і «гаспадарскіх» камерцыйных, мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, якія трымалі нос па ветры. Больш за ўсё ў тых публікацыях мяне здзіўляла канцэнтрацыя хлусні і яе аўтарства. Было ўражанне, што супраць мяне паўстала ўся журналісцкая брацыя. Нават тыя, каго я лічыў сваімі сябрамі, паспяшалі засведчыць свой удзел у, так бы мовіць, грамадскім пакаранні.

Далей — больш. Неўзабаве я і мае публікацыі сталі галоўнай тэмай ідэйных нарадаў у мэрыі і ў адміністрацыі губернатара. На іх, як мне стала вядома пазней, «Авадзень» і яго падручныя натхнёна вынаходзілі сродкі барацьбы са мной, — пакуль яшчэ легальныя. Мяне паўсюль пазбавілі акрэдытацыі. Мой рэдактар быў завалены гнеўнымі лістамі абураных чытачоў, яго перыядычна атакавалі па тэлефоне рознага роду «грамадскія абвінаваўцы». «З'ехалі б вы кудынебудзь», — перадавалі мне пры сустрэчы параду «Авадня» падначаленыя яму чыноўнікі. Спецыяльныя службы пачалі бессаромна праслухоўваць мой тэлефон. Спрабавалі даць хабар. Падаслалі непаўнагадовую куртызанку (я ўжо быў асцярожны). Нацкавалі крымінальнікаў, і я быў вымушаны пачаставаць іх разрадам ручной электрычнасці. А таксама, крыху, ангельскім боксам (хук справа, хук злева)...

І за ўсім гэтым быў ён. Ён! Здавалася, што дзень і ноч ён сочыць за маім быццём. І гэта, прызнацца, было непрыемна. Да агіды. Нарэшце, ён не вытрымаў і патэлефанаваў мне сам.

«Я б мог цябе знішчыць», — пачуў я, паднявшы слухаўку.

«Хто вы?» — здзівіўся я, не пазнаўшы яго.

«Ты ведаеш», — адказаў мне сапраўды надзвычай знаёмы голас.

«Так, так, цяпер здагадваюся».

«Дык вось, слухай уважліва: ты павінен спыніцца, не пісаць усю гэтую хлусню пра прыстойных людзей. У іншым выпадку — наракай на сябе. Я цябе папярэдзіў».

«Я меркаваў, што гэта вашыя, даруй божа, «пісьменнікі» вартыя такіх абвінавачванняў...» — адказаў я ў слухаўку, але мяне ўжо не слухалі...

Праз шэсць гадоў зачынілі цэнтральную газету, у якой я працаваў. Апынуўшыся без справы, я заняўся пісьменніцкай працай. Балазе, інтэрнэт, з дапамогай якога я стаў рассылаць свае апавяданні, паранейшаму дазваляў мне адчуваць сябе свабодным чалавекам. Толькі цяпер я быў не летапісцам свету, а сам ствараў светы. Жывыя, яркія, свабодныя...

...Не ведаю пакуль, чым скончыцца тая непрыгожая гісторыя, але канец маёй life history ўжо набліжаецца. Сусветная літаратура ўстрывожаная. Пушкін узяў у рукі пудовы кій. Чэхаў надзеў пенснэ. Талстой устаў з-за стала. Купала загадкава ўсміхнуўся. Колас нешта сказаў, але не разабраць. Мележ матнуў рукой у бок балота. Пруст прыўзняўся на ложку, абапёршыся на руку. Джойс адсунуў ад сябе шклянку з віскі. Гесэ рассыпаў бісер, у які гуляў...

Усе чакаюць ад мяне завяршальных высноў. Але я не ведаю, што сказаць, як апраўдаць давер. Можа быць, у кожнага, хто жыве на гэтай зямлі, ёсць, як нейкае правіла, свой асабісты ненавіснік (і мой — не самы горшы). У Авеля — свой Каін, у Каіна — свой Авель. Прынамсі, гэта ўсё б вытлумачвала...

